«ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» | № 8 (216), жнівень 2024 года


# Літаратурная Беларусь

Выпуск № 8 (216) (жнівень)

КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ ПРАЕКТ

facebook.com/litaraturnaja.belarus
t.me/litaraturnajabelarus




Змест




**ЛЕКТОРЫЙ:** артыкул Уладзіміра КАВАЛЕНКІ «“Заклятыя” пытанні жыцця Віктара КАЗЬКО» ... с. 2

**ПРОЗА:** апавяданне «Дзікі камень, альбо Апошні літвін» Лявона ВАЛАСЮКА і эсэ Канстанціна КАСЯКА «“Дзеці” Пішчалаўскага замка» ... с. 3, 4

**ПАЭЗІЯ:** нізка новых вершаў Уладзіміра НЯКЛЯЕВА «Без Айчыны ... с. 5

**ЧЫТАЛЬНЯ:** апавяданне Міхаіла КОНАНА «Шварцброт» ... с. 6, 7

**ПАЭЗІЯ:** «стомленыя экспромты» Дануты БІЧЭЛЬ «Паміж зорак і хмар» ... с. 8

**ПЕРАКЛАД:** «Сустрэча з маладым чалавекам» Фрыдзеша КАРЫНТЫ ў перастварэнні з вугорскай Петэра БАРАСА ... с. 9

**КРЫТЫКА:** развагі пра новыя кнігі Вінцэся МУДРОВА, Гагар ЯНАЙ (у перакладзе Паўла КАСЦЮКЕВІЧА) і Яніны ГРЫНЕВІЧ ... с. 10

**ГІСТОРЫІ:** эсэ «Генерал пясчаных кар’ераў» Андрэя ЦУНСКАГА пра Жоржы АМАДУ ... с. 11

**СВЕТ:** навіны і цікавосткі літаратурнага замежжа ... с. 12


**КРАЙ**

# «Знаёмы шлях родны»

Анатоль ВАРАВА

***З цэнтра Мінска дакладна на поўнач вядзе вуліца пад назвам Даўгінаўскі тракт, якая за кальцавой дарогай плаўна пераходзіць у шашу Р58. У сваю чаргу гэтая шаша з’яўляецца мадэрнізаваным і значна шырэйшым гістарычным Даўгінаўскім трактам. Новая шаша ўвабрала ў сябе 50 км старой дарогі. А разам з кіламетрамі да яе перайшлі славутасці і, натуральна, успаміны пра чатыры стагоддзі гісторыі тракта...***

### Папярня і Казіміраўка

Тут у пачатку XIX стагоддзя на рацэ Вяча быў пабудаваны папяровы млын, іначай кажучы — «папярня», на якой паўсаматужным чынам рабілі паперу, ад чаго і паселішча атрымала такую назву. Пасля паперню замяніў тартак, які працаваў ад таго ж вадзянога кола, якое круцілі воды ракі Вячы. Тройчы ў год праводзіліся ў Папярні шумныя фэсты, а ля схілу ў абалону ракі стаяла каменная карчма — адна са шматлікіх на Даўгінаўскім тракце.

На паўночна-ўсходнім беразе вадасховішча Вяча, прыкрытая векавым хваёвым борам, захавалася частка парку былога фальварка Казіміраўка, які ў сярэдзіне XIX стагоддзя набыў адстаўны генерал-лейтэнант, апякун Віленскага і Менскага вучэбных акругаў, а пазней дырэктар Мінскага рэальнага вучылішча Іван Самойла. Яго сын, Уладзімер Самойла (1878—1941), рыхтаваў Янку Купалу, тады яшчэ Яна Луцэвіча, для паступлення ў рэальнае вучылішча. І хоць «нічога з гэтага не выйшла», як узгадваў пазней паэт, аднак дружба паміж Уладзімерам Самойлам і Янкам Купалам адыграла ў лёсе апошняга немалаважную ролю. У траўні 1905 года пры самым блізкім удзеле Самойлы ў газеце «Северо-Западный край» быў надрукаваны купалаўскі «Мужык» — верш, які стаў першым словам будучага народнага песняра ў сучаснай беларускай літаратуры.

Шэфства Самойлы над маладым паэтам прадоўжылася і пазней, калі ў 1905 годзе ён пераслаў вершы Янкі Купалы ў Пецярбург Браніславу Эпімах-Шыпілу — вядомаму дзеячу беларускай культуры, аднаму з арганізатараў выдавецтва «Загляне сонца і ў наша ваконца». Праз два гады ў гэтым выдавецтве выйдзе першая кніга Янкі Купалы «Жалейка». Уладзімер Самойла ў рэцэнзіі на старонках газеты «Наша Ніва» высока адзначыў гэтую кнігу і назваў вершы Купалы «люстэркам, у якім свеціцца душа беларуса».



Помнік Янку Купалу ў фальварку «Акопы». Фота Сяргея Плыткевіча

### Ландшафтны заказнік «Купалаўскі»

Казіміраўка засталася ззаду, і шаша выводзіць нас да вёскі Лускава — яна знаходзіцца ля скрыжавання двух старых шляхоў: Старавіленскага і Даўгінаўскага трактаў. Рухаючыся па Даўгінаўскаму, хутка апынемся на тэрыторыі ландшафтнага заказніка «Купалаўскі», створанага ў 2000 годзе.

Ён названы гэтак зусім не выпадкова, бо ўтрымлівае ў сабе тыя мясціны, дзе «вандравала» ад хутара да хутара сям’я беззямельнага арандатара-«палавінніка» Дамініка Луцэвіча са старэйшым сынам і першым памочнікам бацьку — Янам. Пазбаўлены магчымасці атрымаць сістэмную адукацыю, Янка Купала потым напіша ў аўтабіяграфічных нататках: «Нястача прымусіла мяне ўзяцца за іншую навуку, а менавіта чытаць сумную кнігу памешчыцкай раллі і пісаць смутную аповесць свайго гора сахою ды касой».

Дамінік Ануфрыевіч Луцэвіч памёр у 1902-м, калі Яну ішоў 20-ты год. Будучы паэт прыняў на сябе ўсе клопаты аб родных, аднак неўзабаве адмовіцца ад арэнды зямлі, будзе працаваць хатнім настаўнікам, пісарам у судовага следчага ў Радашковічах, на памешчыцкіх броварах, а потым паедзе ў Вільню і пачне супрацоўніцтва з газетай «Наша Ніва», ступіць на іншую дарогу жыцця. Але сюды, у родны куток, ён будзе вяртацца зноў і зноў. Часта давядзецца яму праязджаць па Даўгінаўскім тракце, якому ў 1926 годзе ён прысвеціць свой верш «Па Даўгінаўскім гасцінцы»:

*Знаёмы гэты мне шлях родны —*
*Даўгінаўскі вядомы шлях!*
*Які нёс годных і нягодных*
*На векавых сваіх плячах.*

### Акопы

У біяграфію паэта асабліва трывала ўвайшоў фальварак Акопы, які знаходзіўся ля Даўгінаўскага тракту, непадалёк ад Лысай Гары, якая размяшчаецца ў пяці кіламетрах ад шашы. У Акопах Янка Купала стварыў каля 70 лепшых твораў: драму «Раскіданае гняздо», вадэвіль «Прымакі», знакамітую «Паўлінку»; у Акопах былі напісаны паэмы «Бандароўна», «Магіла льва», «Яна і я», шматлікія вершы. Пачутыя ім тут легенды, песні, сама прырода гэтага ляснога, у пагорках, лагойскага краю па-свойму пераламляліся, адлюстроўваліся ў яго творчасці.

Паэтычная калыска народнага песняра — Акопы — адзначаны сёння на літаратурнай мапе Беларусі музеем Янкі Купалы...

### Жукаўка — Карпілаўка

А між тым Даўгінаўскі тракт прывёў нас у Жукаўку, за якой на пустым месцы стаяла даўней вялікая карчма, так і названая — «Пустка». Тут праходзіла савецка-польская дзяржаўная мяжа, якая ў 1921 годзе падзяліла Беларусь на дзве часткі і ў трох месцах перарэзала Даўгінаўскі тракт.

За Жукаўкай да тракту ціснулася вёска Карпілаўка, побач з якой раней размяшчалася аднайменная сядзіба пісьменніка і журналіста Антона Лявіцкага (1869—1922), вядомага пад загадкавым псеўданімам Ядвігін Ш.

Янка Купала зблізіўся з гэтым самабытным літаратарам, адным з пачынальнікаў беларускай мастацкай прозы, якога лічыў «вельмі цікавым і дасціпным суразмоўцам».

У Карпілаўку Антон Лявіцкі пераехаў са сваёю сям’ёй у 1897 годзе. На месцы ранейшай сядзібы, якую пісьменнік абагаўляў, усталяваны мемарыяльны камень. Да нашых дзён ацалелі толькі фрагменты старога парку з крыніцай і каржакаватым дубам ды ліпавая алея, якая калісьці абкружала вялікі сад...

27 траўня 1910 года нястомны Ядзвігін Ш. пачаў з Вільні пешы пераход, які доўжыўся чатыры месяцы. Перадолеўшы больш за 400 км, Ядвігін Ш. дабраўся да роднай Карпілаўкі, наведаў дзясяткі вёсак, хутароў, мястэчкаў і перадаў свае ўражанні ад убачанага ў нарысах пад назвам «Лісты з дарогі», якія былі апублікаваныя ў «Нашай Ніве» (у рэдакцыі якой аўтар пэўны час працаваў сакратаром і загадчыкам літаратурнага аддзелу).

Пасля Карпілаўкі стары тракт ля вёскі Лукавец развітваецца з сучаснай шашой Р58. Адсюль да былога жвавага мястэчка, а сёння аграгарадка Даўгінава, застаецца 40 км. І на гэтым адрэзку свайго шляху Даўгінаўскі тракт можа распавесці вандроўніку яшчэ шмат цікавага і павучальнага, пра што ён і да сёння захоўвае трапяткія ўспаміны.

*Пераклад Паўла ЛЯХНОВІЧА*

# «Заклятыя» пытанні жыцця Віктара КАЗЬКО

Уладзімір КАВАЛЕНКА

Лёс абышоўся з ім жорстка на самым пачатку жыцця.

Праз год пасля нараджэння пачалася вайна. Неўзабаве ў Калінкавічы, іншыя вёскі і мястэчкі прыйшлі акупанты, якія пачалі ўсталёўваць «новы» парадак. Сям'я Казько была вымушана прыстасоўвацца да трагічных ваенных абставін. Малалетні Віктар, ягоная сястрычка, маці хаваюцца ад ворага. Церпяць нястачу, уцякаюць у лес, на балота, туляцца ў незнаёмых людзей. Ад выбуху бомбы гіне маці, замярзае сястрычка...

А Віктар цудам застаецца жывы. Каб пачаць доўгі шлях беспрытульнага падлетка пасля вайны. Бацька, які застаўся жывы, завёў новую сям'ю, дзе будучы пісьменнік належнай увагі і цяпла не адчуў. Таму гадаваўся ў Вільчанскім і Хойніцкім дзіцячых дамах.

Дасягнуў паўналецця і быў вымушаны думаць і дзейнічаць, каб самастойна зарабіць на кавалак хлеба. Паехаў у Сібір, вучыўся ў Кемераўскім горным тэхнікуме, працаваў у шахце і ў геолагаразведцы.

«Сібірскі» перыяд ягонага жыцця вельмі важны для разумення станаўлення Віктара Казько як асобы, грамадзяніна і, натуральна, пісьменніка.

Уласнаперажытае ў гэты час замацавана ў мастацкіх формах: аповесці «Цёмны лес — тайга густая» (1973), «Дзень добры і бывай» (1974)...

Камбінацыі з мастацкім часам і прастораю (хранікальнае цячэнне сюжэта і рэтраспекцыі), арганічнае выкарыстанне вуснапаэтычнай народнай творчасці і зварот да міфалогіі, выкарыстанне для больш поўнага раскрыцця характару героя «плыні свядомасці», элементаў прыпавесці, апора на рэгіянальныя асаблівасці той мясцовасці, аб якой вядзецца гаворка, дзе найбольш натуральна выяўляецца аўтарская канцэпцыя сучаснага аўтару чалавека і навакольнага свету, — усё гэта характэрна прозе В. Казько.

Дзіма Прыгода з аповесці В. Казько «Высакосны год» (1972) паехаў шукаць рамантыкі. Адзін з шаснаццаці падлеткаў-беларусаў, ён адразу ж трапіў у самую гушчыню «бітвы за ўраджай» на цалінных і залежных землях. Падлетку-беларусу, які ведаў цану пасляваеннага хлеба, было балюча сачыць, як гіне сабранае зерне. Яно проста згаралася ў буртах, ператваралася ў вугаль. І гэта ў той час, калі ў пасляваенным Савецкім Саюзе катастрафічна бракавала ўраджаю.

А яшчэ была насталгія. Успаміны аб дарагой яму Беларусі, дзе ён нарадзіўся і стаў падлеткам. І згадкі пра вайну, якую ён запомніў у два ці тры гады. Не ўсё, вядома, а фрагментарна. Самае яркае і трагічнае. У хату, дзе туляцца маці, сястрычка і ён, трапляе снарад. Маці гіне, хлопчык уцякае, пакідаючы сястрычку. Чамусьці спрабуе коўзацца на лёдзе. Гэта, відаць, было своеасаблівою дзіцячай рэакцыяй на смерць. Потым даведваецца, што сястрычка замерзла ў халоднай хаце, чапляючыся ў апошнія хвіліны за халодны труп маці.

Сам пісьменнік пазней прызнаваўся, гэта неаднаразова падкрэслівала крытыка, што шматлікія рэтраспекцыі ў аповесці «Высакосны год» звязаны з комплексам віны за гэтую трагедыю.

Асновай раздзела твора пад назвай «Дарогі» з'яўляецца канфлікт свядомасці, псіхалогій. Малога і дарослага. Аўтар «выцягвае» ланцужкі зрокавай памяці.




Віктар КАЗЬКО

Яны ўзнікаюць па пэўнай асацыяцыі і складаюць аснову кампазіцыі раздзела і ўсёй аповесці.

Раздзелы «Дома» і «Абкатка Сібірру» напісаны, як здаецца, з пазіцыі і псіхалогіі дарослага чалавека. Дзіма Прыгода вяртаецца з далёкіх краёў, каб сустрэцца з роднымі і блізкімі. І з дзяцінствам. Гэта і радасна, і горка. Нанава абуджае памяць. Не ўсё так проста выглядае тут, на Палессі, дзе жыццё паступова залечвае раны вайны, але яны яшчэ балюча смыляць...

Бацька Дзімы застаўся жывым. Пасля вайны стварыў сям'ю, дзе было шмат дзяцей. У родным доме Прыгоду сустракаюць зводныя сёстры і браты, мачыха...

Наступныя раздзелы аповесці напісаны ў тым жа зрокава-асацыятыўным плане, дзе малюнкі пасляваеннага жыцця, убачаныя, пражытыя аўтарам у Сібіры, у час сустрэчы з радзімай чаргуюцца. Гэта служыць выяўленню мастацкай канцэпцыі. Простай, як нараджэнне і плач дзіцяці: «Мой дом у Беларусі. Там я галадаў, замярзаў, там я марыў пра багатую Сібір. Сібір — добрае месца, выдатнае месца, край мужных і моцных людзей. Але гэта не маё, маё не тут. Каб жыць у Сібіры, быць чалавекам, трэба роўна столькі мужнасці, каб быць ім у Беларусі. Я выбіраю Беларусь. Яна мяне выбірае».

Завяршае аповесць раздзел «Сустрэча», пабудаваны на суіснаванні рэалістычных сцэн (наведванне галоўным героем магіл маці і сястрычкі) і містычных (гутарка са старою Васілісаю, з самім сабою, трызненне ў сне, з'яўленне на той свет, сустрэча з Богам і маці). Так празаік падводзіць першую рысу ў вялікім ланцугу мінулага свайго героя.

Але не ўсе праблемы, не ўсе заклятыя пытанні жыцця да канца вырашаны. Над імі пакутуюць Андрэй Разорка з «Аповесці пра беспрытульнае каханне» (1975) і Колька Лецечка з аповесці «Суд у Слабадзе» (1978). Калі першы спрабуе, па словах Пятра Васючэнкі, «уцячы ад самога сябе, ад цяжкай памяці пра вайну, з надзеяй адшукаць свет, «які не ведае вайны», то другі вяртаецца да спрадвечных вытокаў, да Радзімы на Палессі.

Ствараецца ўражанне, што і Андрэй, і Колька хварэюць душою. А перадумовай усяго — іх фізічнае калецтва. Адсюль устойлівы матыў пакінутасці, непатрэбнасці і бессэнсоўнасці існавання. І толькі каханне здольнае вярнуць да жыцця і сэнсу ў ім.

Крытыкі (Н. Ігрунова і інш.) справядліва падкрэсліваюць, што героі прыгаданых аповесцей В. Казько воляй аўтара павінны спачатку прайсці праз пекла жыцця, каб адчуць сябе шчаслівымі. Знаходжанне малалетняга Разоркі ў нямецкім канцлагеры, Лецечкі ў якасці донара нямецкіх салдатаў і афіцэраў у кіндэрхайме і ёсць тое пекла, якое назаўсёды скалечыла іх.

Асноўны канфлікт аповесці «Суд у Слабадзе» знаходзіцца ў сферы пачуццяў, духоўнасці, падсвядомага. З адлюстраваннем складанасці ўнутранага свету падлетка, які перамагае ў сабе пачуццё помсты, набліжаецца да хрысціянскіх ідэалаў выкуплення віны, грахоў не ўласных, В. Казько спраўляецца выдатна. Гэта ставіць празаіка ў кантэкст аўтараў т. зв. «дзяцей вайны» (М. Стральцоў, І. Чыгрынаў, В. Адамчык, Б. Сачанка, І. Пташнікаў), у творах якіх суадносіны паміж аўтабіяграфічным і мастацкім розныя. У В. Казько шырэйшыя матывы маральнага суда, адчування віны, складанасці навакольнага свету і адказнасці за сваю прысутнасць у ім. Таму творы яго акрамя простага сюжэту насычаны міфалагічнымі і біблейскімі асацыяцыямі, прароцтвамі і матывамі ўсясветнага суда і ачышчэння.

Біблейскі Эдэм, абсалютная гармонія прыроды і чалавека, ідэал некранутасці («нерушы») — Радзіма пісьменніка, прыпяцкае Палессе. Асабліва вылучаецца на гэтым фоне аповесць «Цвіце на Палессі груша» (1978), найбольш лірычная, як песня, зрокава-вобразная ў творчым «багажы» В. Казько: «Кожная мясціна на Беларусі адметная не толькі нечым сваім непаўторным, зямлю скрозь прайдзі — нідзе не сустрэнеш, але і сваёй гаворкай. Асабліва ж вылучаюцца ёй палешукі, а сярод палешукоў — вось гэтыя людзі, што пры рацэ, што жывуць у адной з Яўменам вёсцы сярод лясоў. У гэтых лясоў і ў той жа ракі бралі яны свае слова... І адначасова са словам перад табой паўстае і рэч, пра якую ідзе гаворка, паўстае і сам чалавек. Коціцца, коціцца над зямлёй яго пявучае слова, як тая рэчка, ціха, але няспынна коціць свае воды сярод белых пяскоў, рудых і зялёных балацін, ніцых лазнякоў, як шумяць іх гаманкія бары, гаі і дубровы: "Палеээ-сся-аа"».

Сапраўдны гімн Палессю і яго жыхарам!

Галоўны герой аповесці Яўмен Ярыга ад нараджэння нямы. Ён надзелены першароднасцю светаўспрымання, наіўнасцю. Абмежаваны фізічна, ён, тым не менш, валодае вялікім багаццем адкрывальніка цеснай сувязі чалавека і прыроды. Нельга не ўбачыць тут блізкасць мастацкіх канцэпцый В. Казько і Ч. Айтматава, В. Астаф'ева, В. Распуціна, І. Друцэ, В. Карамазава. Сказалася, відаць, цеснае яго знаёмства з рускай прозай, вучоба ў Літаратурным інстытуце імя М. Горкага. Цесныя кантакты, дружба з вядомымі мастакамі слова прымусілі па-новаму паглядзець і на характо роднага яму Палесся. Бліжэй за ўсё В. Казько В. Астаф'еў і В. Распуцін. У нацыянальнай жа прозе ён як бы паралельнымі сцежкамі ідзе з В. Карамазавым (раман «Пушча»).

Сваю этычную і эстэтычную пазіцыю В. Казько перадае з дапамогай «плыні свядомасці» Мацея Роўды, Махахея, Ненене, Бардзькі, састарэлага дзеда Дзям'яна, часам маладзейшых персанажаў — Ваські Брытана, Надзькі. Рэфлексіі пазбаўлены прыхільнік сілы і рэвалюцыйных узаемаадносінаў з навакольнай прыродай — адзін з кіраўнікоў суцэльнай меліярацыі палескіх земляў — Шахрай. Апошні выконваў і гатовы быў любой цаной «перамагчы» яе. Вынішчаць унікальную фаўну і флору, абязводжваць глебы, паварочваць нават вялікія рэкі Сібіры ў адваротным напрамку. Ён, як і Башлыкоў з "Палескай хронікі" І. Мележа, любой цаной выконваў загады партыі камуністаў, не лічыўся з лёсамі простых людзей, аховай навакольнага асяроддзя. Дзеля "вялікага" будучага ўраджаю на пераўтвораных былых балотах губляе крэўнае яднанне з зямлёй.

Для Палесся такая падзея азначала па сваёй трагічнасці бальшавіцкі пераварот, грамадзянскую вайну, калектывізацыю або Вялікую Айчынную. Не ў дробязны маральна-бытавы, эканамічны канфлікт уступае з ім Мацей Роўда, для якога страта балотнай багны ў ваколіцы Княжбора раўназначная разбурэнню сусвету, чалавечых асноў быцця.

Канцэптуальна В. Казько на баку тых, хто разумее, што раз'яднанне з зямелькай пацягне за сабою вялікія маральныя праблемы. З дапамогай метафорыкі, ужывання сімвалічных, фальклорна-легендарных вобразаў і сцэн ды іх паўнага перабольшвання часам В. Казько малюе меліяраваную зямлю як «зону знішчэння», вельмі падобную будучую «зону адчужэння» на Палессі пасля аварыі на Чарнобыльскай атамнай станцыі...

Своеасаблівым развіттаннем з улюбёнымі тэмамі стаў для В. Казько раман «Хроніка дзетдомаўскага сада» (1986). Гэта лагічны працяг папярэдняй творчасці празаіка, дзе ён працягвае эксперыментаваць у галіне зместу і формы: адухаўленне і антрапамарфізм, шматлікія рэтраспекцыі, «сумяшчэнні» часава-прасторавых катэгорый, кінематаграфічная і асацыятыўная будова сюжэту. Твор шмат у чым нагадвае пошукі В. Распуціна («Развітанне з Мацёрай»), Я. Брыля («Птушкі і гнёзды»), А. Жука («Паляванне на Апошняга жураўля»), Ч. Айтматава («Плаха») і іншых. Гісторыя зубра Сноўдалы, лёс страчанага і аднаўленага Саду, мастацкая гісторыя Мар'яна Знаўца і Сідара Місцюка, сцэны канца свету (высыханне стогадовых дубоў, знікненне баброў, нашэсце пацукоў і мышэй, пажар) прызваны драматызаваць і паглыбляць асноўны канфлікт рамана, заклікаць да міласэрных адносін з прыродай і чалавекам у ёй. Натуральна, што на такі характар вырашэння жыццёвых калізій, на ўсю паэтыку рамана не магла не ўплываць трагедыя, якая адбылася на Палессі адначасова з выхадам твора ў свет: Чарнобыль.

Згаданая традыцыя нацыянальнай прозы, распачатая К. Чорным, М. Гарэцкім, працягнутая Я. Брылём, А. Адамовічам, даволі ўстойлівая і перспектыўная. Значнае месца тут належыць, безумоўна, В. Казько, В. Карамазаву («Краем белага шляху»), А. Дудараву («Злом»).

У гэтым сэнсе цікавыя па-свойму аповесці «Выратуй і памілуй нас, чорны бусел», «Прахожы» і раман «Бунт незапатрабаванага праху», напісаныя Віктарам Казьком у канцы XX-га і пачатку XXI-га стагоддзяў. Гэта новы крок празаіка ў асэнсаванні хуткаплыннага жыцця нашага сучасніка.

Ствараецца новая і па сутнасці старая разнавіднасць інтэлектуальнага, філасофскага, псіхалагічнага рамана, які патрабуе ўдумлівага чытання, роздуму аб сэнсе існавання, месцы чалавека ў акаляючай прыродзе і сусвеце.

# ДЗІКІ КАМЕНЬ, альбо АПОШНІ ЛІТВІН



Лявон ВАЛАСЮК

Ва ўтульнай ранішняй пасцелі Антон раптоўна адчуў дотык да твару нечага халоднага і слізкага, падобнага на лязо нажа. Ад нядобрых прадчуванняў мужчына здрыгануўся і адразу прачнуўся. Змрочная цемра ахутвала стары драўляны ложак, на якім ён спаў яшчэ ў дзяцінстве. Той чырвоны драўляны ложак некалі перавезлі з бацькоўскай хаты ў дзедаву, калі маладая сям'я з дзецьмі перабіралася жыць у горад. Доўгія гады ён яшчэ служыў бабулі, часам і яму, Антону, калі той бываў наездамі ў вёсцы.

Мужчына разгледзеў цёмныя постаці людзей, што мітусіліся ля акна. Складвалася ўражанне, што няпрошаныя госці нешта шукаюць у тым месцы, дзе стаіць стары дубовы стол. Але хто яны такія і як патрапілі ў хату? Сітуацыю неабходна было вырашаць імгненна. Антон ірвануўся з пасцелі, каб запаліць святло, высветліць, хто трапіў у дзедаву хату, і прагнаць чужынцаў. І ў гэты момант ён канчаткова прачнуўся... на ложку ў сваім гарадскім доме...

Жонкі побач не было, не чуваць было і дзяцей. Святло толькі пачало прабівацца ў пакой праз занавешаныя фіранкі: шэсць гадзін раніцы. Антон прысеў на край ложка. Малюнкі і адчуванні трывожнай начы, дзіўнага, невераґоднага явы-сну ўсё яшчэ не пакідалі яго. Што шукалі незнаёмыя ў дзедавай хаце?.. І як наогул магло такое прытрызніцца?.. Мо настальгія?.. Хочаш ці не хочаш, з гадамі яна даймае ўсё мацней.

***

Антон — з той пары, як сябе памятае, і да самага ад'езду ў горад — любіў бавіць час пад дзедавым дубовым сталом, які заўсёды стаяў на адным месцы, у кутку між вокнамі. Бабуля Ганна калі-нікалі з усмешкай удакладняла, што гэта яе стол і дастаўся ёй у пасаг. Стол прывезлі з Крыўлян, з бацькоўскай сядзібы бабулі Ганны, калі дзед Іван ажаніўся з ёй, маладой і прыгожай. На той час ужо закончылася Першая сусветная вайна, пастунова зацiхаў напал Грамадзянскай. Дзед з меншым братам Петруком і матуляю вярнуліся з бежанства. Напачатку пабедавалі вялікай сям'ёю ў радні ў суседняй вёсцы Мацясы. Пасля адбудавалі на пажарышчы сваю хату, у першую чаргу за кошт чырвонцаў, што назапасіла матуля, працуючы ў багатых данскіх казакоў. У новыя харомы і прывёў нядаўні салдат маладую гаспадыню, перавёзшы сюды і яе небагаты скарб. Працавалі, выхоўвалі дзяцей. Мяняліся ўлады, адвечнай, роднай заставалася толькі зямля, палі, лясы і балоты навокал вёскі, людзі, што жылі побач.

Стол быў прыгожы, грувасткі, сціпла, але з густам аздоблены арыгінальнымі накладнымі дэталямі. Ён стаяў на круглых точаных ножках, якія бліжэй да нізу злучаліся моцнымі дубовымі брускамі — на іх дарослыя часта ставілі ногі. Па гэтых адпаліраваных да бляску брусках вельмі любіў коўзацца маленькі Антонік, абследуючы ніз стальніцы, засоўваючы далонькі ў патаемныя бакавыя нішы, дзе былі схаваныя няхітрыя цацкі, якія майстраваў яму дзед Іван ці прывозіў з горада бацька. Тыя цацкі ніхто са старэйшых не мог дастаць, ды ім і не было такой патрэбы. А хлопчык, у чарговы раз залазячы пад стол, намацваў у аднаму яму вядомых схронах то пластмасавую дудачку, то чорны жалезны пісталет, з якога можна было страляць пістонамі з карычнявата-чырвонаю кропачкай пасярэдзіне. Асабліва рызыкоўна, і ў той жа час цікава, было пальнуць менавіта тады, калі за сталом сядзелі дарослыя і пілі гарэлку ці проста размаўлялі, смяяліся. Праўда, за падобнае свавольства даводзілася пасля забаўляцца з катом у кутку ля печы ці, у добрае надвор'е, з курамі на сметніку.

Была ў стале і шуфляда, якая высоўвалася, калі дзед намерваўся галіць пароcлыя сівым шчаціннем шчокі і бараду. А яшчэ Антон час ад часу даставаў адтуль кніжку ў жоўтай цвёрдай вокладцы, каляровыя алоўкі, асадку ці іншыя дробныя рэчы. Калі старыя памерлі, ён забраў на захаванне рарытэтны нож і аб'ёмны «польскі» сшытак у цвёрдай вокладцы. З процілеглага боку шуфляда адсутнічала, яе некуды падзела старэйшая сятра.

Меў стол і не абы-якую вагу, таму, пэўна, і прастаяў у дзедавай хаце больш тры чвэрці веку на адным месцы. Раз у дзесяць, а то і больш гадоў яго адсоўвалі, каб пафарбаваць сценкі. Ну і яшчэ ў час вяселля: жаніліся сыны, выходзілі замуж дзедавы дочкі. Звычайна за сталом абедалі і вячэралі. У святы за ім збіралася вялікая радня: тры сыны з жонкамі, дзве дачкі з зяцямі, а потым і дарослыя ўнукі са сваімі сем'ямі.

Мелася за сталом і ганаровае месца: з тарца, акурат ля акна, у якое была відна амаль што ўся вуліца і лава, на якой часта бавілі вольны час аднавяскоўцы. Любіў там пасядзець і дзед Іван з цыгарэтаю, і бабуля Ганна са сваім нязменным кіёчкам.

***

Бабуля Ганна казала, што яе будучы пасаг ніколі не пакідаў бацькоўскай хаты. Па словах бабулінай маці Елізаветы, да іх ён трапіў з пакояў былога замка князёў Чартарыйскіх, пабудаванага яшчэ ў XVI стагоддзі. Чартарыйскія валодалі ім у XVII—XVIII стагоддзях. Замак стаяў непадалёк ад хутара, дзе нарадзілася і вырасла бабуля Ганна, у мястэчку Коранева. З цягам часу першыя ўладары прадалі памесце новым гаспадарам, дзе ўжо працаваў нехта з бабулінай радні, за што атрымаў ладны кавалак зямлі, на якой і пабудаваліся. Бабуля расла пад прыглядам маці. Бацька, яго звалі Аксінцій, доўгі час служыў у царскім войску, біўся з туркамі і, ужо вярнуўшыся з вайны, памёр ад старых ранаў...

З пачаткам новага стагоддзя прыгожы, дагледжаны замак пачаў пастунова прыходзіць у заняпад. У час нямецкай акупацыі перыяду Першай сусветнай пра былое харaство і веліч напаміналі толькі разваліны. Мясцовыя гаспадары, карыстаючыся момантам, пацягнулі з замка ўсё, што можна. Такім чынам і трапіў да бабулі Ганны прыгожы дубовы стол, які і стаў яе пасагам...

***

Хата, а з ёю і стол перажылі ліхалецце яшчэ адной вайны, хрушчоўскую адлігу і перабудову. Памянела жыхароў у вёсцы, менш галасоў было чутно на лаўцы дзеда Івана. Прыйшоў час, калі не стала спачатку бабулі Ганны, а праз два гады і дзеда Івана. Хата асірацела. Некаторы час там яшчэ сяліліся прыезджыя кватаранты, якіх невядома дзе знаходзіў дзядзька Сцяпан, дзедаў сярэдні сын. Урэшце і іх не стала.

Зрэдку за хатай пpыглядвала старэйшая дачка Надзея, якая прыязджала з райцэнтра, але гэта ўжо было не тое. Шматлікія кватаранты павыграбалі з дому ўсё, што толькі можна. Не кранулі толькі цяжкі дубовы стол (пэўна, не хацеў трапляць у чужыя рукі), дарэшты пралежаную канапу ды стары драўляны ложак.

З часам і Надзея ўсё радзей стала пераступаць парог бацькоўскай хаты — гады бралі сваё, і толькі Антон — Антон Васільевіч — наведваўся туды раз у два-тры месяцы, каб падтрымліваць які-ніякі парадак, тым больш што жыллё цяпер лічылася за ім. Толькі ці ж упільнуеш усё?!.. Прыезджыя пасяленцы — адкуль яны толькі браліся! — і калодзежны зруб, і хлеў разабралі на дровы. У самой хаце застаўся адно толькі пакрыты пылам стол. Надзея папрасіла пляменніка забраць рарытэт у горад, каб не знікла памяць пра родную хату.

Хоць і не без прыгод, стрыечны брат і пляменнікі Антона дапамаглі яму выцягнуць стол з хаты, загрузіць у прычэп і перавезці ў гарадскі дом. Напачатку Антон паставіў фамільную рэліквію ў двары ля гаража, прыкрыўшы зверху цыратай, а ўжо наступным днём, адклаўшы ўсе справы, пачаў вычышчаць ад бруду і рыхтаваць да пакрыцця лакам.

Паклаўшы на зямлю некалькі жардзін, Антон перакуліў стол, каб вытрасці смецце, зняць густое павуцінне. Ці не ўпершыню за сто гадоў стол апынуўся перавернутым дагары нагамі. Адразу прыгадаліся дзіцячыя гульні пад сталом, валтузня з катом...

Зусім нечакана Антон звярнуў увагу на перагародку паміж нішамі шуфлядак. Толькі цяпер ён зразумеў, што сама перагародка — таксама ніша, збіты з дошак і прыладжаны знізу да стальніцы жолаб, прычым дастаткова аб'ёмны. Ці не схрон?.. І аніякіх слядоў узлому.

Антон закурыў, пастаяў некалькі хвілін у роздуме і пастукаў па дошках жолаба знізу і з бакоў. Гэта нічога не дало. Тады ён прынёс з гаража і пусціў у ход долата і малаток, пачаў акуратна адціскаць ніжнюю дошку. Калі яна паддалася, на зямлю выслізнуў запылены і парудзелы ад часу скрутак, які напамінаў загорнутае ў тканіну палена, а следам выпала два меншых.

Антона ажно скаланула. Страшна было нават дакрануцца да нечаканай знаходкі: а што, калі там... сляды злачынства, таемныя амулеты, загавораныя на хваробу чарапы або скілеты пацукоў. Антон пакратаў кожны са скруткаў ламачынай, а пасля ўсё ж набраўся смеласці і ўзяў у рукі большы. Ого, нешта цвёрдае!

Сэрца Антона трывожна затрымцела-затахкала. Добра яшчэ, нікога не было побач. Найперш трэба самому разабрацца, што і як. Антон узяў у рукі большы скрутак і накіраваўся ў гараж, каб далей ад чужых вачэй, прычыніў дзверы, уключыў святло і разгарнуў парудзелую ад часу тканіну. Усярэдзіне аказалася кардонная труба, якую чарцёжнікі называюць тубусам. На светла-карычневай паверхні тубуса Антон адразу ўбачыў пацямнелую ад часу сургучовую пячатку. «О-го-о!» — толькі і вырвалася з вуснаў. Ён інстынктыўна азірнуўся на дзверы: ці не падглядвае хто ў шчыліну. Пераканаўшыся, што нікога няма, паклаў тубус на паліцу і пайшоў па меншыя скруткі. Ужо цяпер Антону было ясна, што ён натрапіў на схованку, што праз хвіліну-другую будзе далучаны да нейкай таямніцы.

Ён перанёс у гараж меншыя скруткі, зачыніў дзверы цяпер ужо на зашчапку, і няспешна зноў падступіўся да тубуса. «Пэўна, вельмі старадаўнія дакументы?» — падумаў, няспешна паварочваючы загадкавую знаходку ў руках. З аднаго боку, хацелася прадоўжыць імгненне таямнічасці, з другога — усё яшчэ баяўся расчаравацца. Вось табе і дзед, і бабуля! Жыццё пражылі, і не ведалі, на чым абедалі.

Антон набраў у грудзі паветра, выдыхнуў і пачаў асцярожна раскрываць тубус. У ім быў стос скручанай у трубку пажаўцелай паперы, а ў самай сярэдзіне — асобны ліст, на якім Антон разгледзеў план мясцовасці. Бліжэй да цэнтра чырвоным алоўкам ад рукі быў акрэслены невялікіх памераў круг. «Гэта ўжо цікава!» — прамовіў услых, задаволены тым, што не спраўдзіліся горшыя прадбачанні. Старыя лісты паперы аказаліся дакументамі, раўнюткія, каліграфічным почыркам напісаныя радкі якіх панізу былі завераны пячаткамі. Усе дакументы на дзвюх мовах, і толькі некалькі — на расійскай, прычым «на хуткую руку».

Антон засунуў усе паперы назад у тубус, пакінуўшы толькі чарцёж-план. І якім моцным было ягонае здзіўленне, калі пры больш уважлівым разглядзе плана прачытаў знаёмыя з дзяцінства назвы.

Каб супакоіцца і прадумаць свае далейшыя дзеянні, пачаў няспешна даводзіць да ладу стол — падбіў адараваную дошку схрону, пакрыў лакам ніз і верх стальніцы.

Цяпер з ім жыла таямніца, таямніца яго роду, таго краю, дзе нарадзіўся і вырас...

***

Андрэй, пятнаццацігадовы сын Данілы Вайцюка, любіў хадзіць на зімовае паляванне, цягаца па навакольных балотах, палях і лясах. Гэтая любоў з цягам часу толькі мацнела. Хлопца цешылі малюнкі і гукі зімовай прыроды. Яна прыдавала сілы, мацавала здароўе, рабіла вынослівым і дужым. Андрэй спасцігаў свет, які меў шмат таемнага, непазнанага і неразгаданага.

Зімовае паляванне ў першую чаргу адрозніваецца тым, што можна дабрацца да самых глухіх, аддаленых месцаў, куды не ступала нага чалавека. Вясной, калі ўсё навокал залівала вадою і балоты станавіліся азёрамі, марыць пра такія падарожжы не было сэнсу.

Бацька Андрэя, суровы з выгляду, дзелавіты чалавек, не дазваляў пустога бадзяння па ваколіцах. Праўда, да палявання гэта не адносілася, бо яно, на думку старога, выхоўвала мужчыну-воіна, моцнага духам і целам, здольнага пераадольваць цяжкасці, быць абаронцам сям'і і роду.

Заканчэнне на стар. 4 »

# ДЗІКІ КАМЕНЬ, альбо АПОШНІ ЛІТВІН

« Заканчэнне. Пачатак на стар. 3

***

Аднаго разу з Андрэем ледзь не здарылася бяда. Перасокваючы з купіны на купіну, ён не ўтрымаў раўнавагу і ледзь не па шыю апынуўся ў студзёнай вадзе.

— Жук! Жук!.. — закрычаў хлопец, зрываючы голас. Пальцы сутаргава хапаліся за асаку, калечыліся да крыві. Крывая алешына, за якую можна было ўхапіцца, расла зусім побач, не болей як за паўтара метра, але дацягнуцца да яе не было моцы.

Сабака апынуўся побач, на ўсю моц забрахаў-заскуголіў. Іншым ён дапамагчы не мог.

Раптоўна на пясчанай выспе на краі балота з'явілася дзяўчына, босая, у палатнянай, перацягнутай чырвоным поясам сукенцы. Яна асцярожна набліжалася да Андрэя па купінах, абапіраючыся на тычку-рагаціну, якую выламала па дарозе. Падабраўшыся, наколькі было магчыма, дзяўчына злаўчылася і рагацінай нахіліла алешыну да вады. Праз хвіліну верх дрэўца апынуўся ў руках тапельца, і цяпер ён мог падцягнуцца да камля. Кволая на выгляд алешынка не зламалася, вытрывала.

Андрэй аддыхаўся і праз некаторы час ужо быў на пясчанай выспе разам са сваёй выратавальніцай. Жук то цёрся ім аб ногі, то, стаўшы на заднія лапы і высунуўшы свой ружова-чырвоны язык, аддана зазіраў абодвум у вочы, нібы дапытваючыся: «Я правільна рабіў, што голасна брахаў?..»


Фота mirlukov.by

— Ты хто? — Андрэй разгублена глядзеў на незнаёмку, усё яшчэ да канца не верачы ў сваё вызваленне з балотнай пасткі.

— Бацькі клічуць Аленаю. У мяне яшчэ ёсць тры меншыя браты і сястра. На выспе я апынулася выпадкова, пэўна, так патрэбна было Богу. А як толькі пачула сабачы брэх, ногі самі панеслі сюды, бо змалку ведаю, што навокал багна, няма аніводнай грэблі, адно толькі непрыкметная староннямy сцяжына, па якой бацькі трымаюць сувязь з суседзямі, што жывуць за балотам... — дзяўчына зачырванелася, паправіла на галаве хустку, запытала:

— А ты хто? Як апынуўся тут, на краі свету?

— Я — Андрэй, а сабаку завуць Жуком, — адказаў ён, пагладжваючы па спіне свайго адданага сябра. — Мы заўсёды разам. Сёння без яго прапаў бы, а без цябе тым больш. Люблю біць ногі, шукаць прыгод на сваю галаву, як кажа маці.

Яны памаўчалі. Андрэй адчуваў сябе няёмка ад таго, што з ног да галавы быў у балотным брудзе, і шукаў вачыма лапік чыстай вады. Алена заўважыла гэта і падказала, у які бок ісці.

— Я пачакаю цябе тут, — прамовіла дзяўчына нібыта даўняму знаёмаму. Было відаць, што хлопец спадабаўся Алене, ды і па ўзросце яны былі блізкімі.

Воддаль за пясчаным пагоркам віднелася прыгожая сажалка, адбіваючы люстэркам паверхні промні паўдзённага сонца.

***

Пры наступнай сустрэчы, пра якую Андрэй і Алена дамовіліся, развітваючыся, дзяўчына прапанавала прагуляцца па выспе да балотнай ракі Шэўня, да святога месца, Дзікага Каменя, на якім пакінула сляды босых ног Божая Маці.

Андрэй прыгадваў месцы, якімі яны цяпер ішлі. Рачулку ён адкрыў для сябе яшчэ падчас першых вандровак. Аднаго разу сабака, удосталь набегаўшыся па хмызняках у пошуках дзічыны, раптоўна прапаў з поля зроку. У пошуках Жука і набрыў Андрэй на балотную рачулку, з якой той прагна хлябтаў халодную ваду.

Алена падвяла Андрэя да каменя, які велічна ляжаў непадалёк ад броду. Здавалася, што яго тут калісьці паклаў чалавек-асілак. Большая частка валуна ўрасла ў зямлю, што не дзіўна, бо месца было гразкае, асабліва ў пару дажджоў. Тым не менш верх каменя ўражваў сваёй сівой веліччу.

І ўсё ж галоўным былі сляды, якія пакінула на Дзікім Камені Божая Маці, калі адпачывала на ім, пабываўшы на пакутнай Беларусі. Ад гэтага і камень быў не просты, а меў цудадзейную сілу. Алена расказала, што да гэтай спрадвечнай святыні жыхары навакольных вёсак і хутароў хадзілі па дапамогу, калі хварэлі, або калі была вялікая патрэба нешта папрасіць. Божая Маці ніколі не пакідала чалавека ў бядзе. Хваробы адступалі, салдаты вярталіся з вайны жывымі, пажары абыходзілі сялянскія хаціны, град не выбіваў пасевы жыта і льну.

І пазней неаднойчы, у розную пару года, малады паляўнічы з сабакам выходзіў на бераг рачулкі, якая яму палюбілася, зарыентаваўшыся на мясцовасці, беспамылкова выбіраў правільны накірунак, з асаблівым хваляваннем падыходзіў да каменя, доўга разглядаў яго, не спяшаючыся прысесці, перахрысціўшыся, праводзіў далоняю па адбітках ног Божай Маці.

***

Праходзіў год за годам. Падпарадкоўваючыся бацькоўскай волі, якая супала з яго ўласным жаданнем, Андрэй паехаў у сталічны горад, доўга вучыўся, стаў адукаваным чалавекам.

Ён ніколі не забываў пра сваё выратаванне, пра знакавую ў яго жыцці сустрэчу на выспе. Андрэй сапраўды вырас чалавекам мужным, і за імкненне даць шчасце і волю дарагой для яго зямлі пазнаў горкі хлеб чужыны. Вярнуўшыся на радзіму ў канцы жыцця, ён загарэўся думкай перавезці Дзікі Камень у царкоўны двор, але і пяцёра добрых коней не змаглі зрушыць валун з месца. Спадзеючыся на мудрасць і кемлівасць далёкіх спадчыннікаў, адзінокі гаспадар маёнтка намаляваў дакладны план мясцовасці, абазначыўшы на ім месца валуна, і папрасіў сталяра пакласці яго і шмат якія іншыя радавыя дакументы ў схрон.

***

Пра Камень і сляды на ім Антон ведаў з маленства. Здаралася, бываў там і ў маладосці, грэўся пад вечар ад разагрэтага цела валуна, адпачываў у яго цені спякотным чэрвеньскім поўднем. Але ж калі тое было!.. І паўвеку назад далёка не кожны чуў пра Дзікі Камень. А ўжо цяпер!..

Мо толькі ён адзін зможа адшукаць тое запаветнае месца на беразе балотнай рачулкі. Нічога на свеце не бывае выпадковым. І гэты сон, і знаходка... Яны таксама не самі па сабе. Цяпер у яго, Антона, ёсць абавязак: наблізіць Дзікі Камень да людзей. Цяпер менавіта ён адказны перад Вечнасцю.

# «Дзеці» Пішчалаўскага замка



Канстанцін КАСЯК

Пэўна, у кожнай краіне ёсць свая турма-сімвал. У Амерыцы — Алькатрас, у Францыі — Бастылія, у Брытаніі — Таўэр. У Беларусі таксама ёсць такая — сталічны Пішчалаўскі замак, больш вядомы пад народнай назвай Валадарка.

Згодна з гарадской легендай, памешчык Пішчала пабудаваў замак для ўласных патрэбаў, аднак неўзабаве быў забраны імперскімі ўладамі, якія арганізавалі там астрог. У рэальнасці ж усё было менш рамантычна: дваранін Рудольф Пішчала выступаў у ролі «падрадчыка», выйграўшы своеасаблівы тэндар на пабудову новай гарадской турмы. Замак быў пабудаваны ў 1824 годзе на гарадскім ускрайку і адчыніў дзверы для першых «пастаяльцаў» вясной 1825-га.

Як і ў любой іншай краіне, у гарадскую турму траплялі не толькі злачынцы ці асобы з развітым крымінальным мысленнем, але і нязгодныя з палітыкай існага рэжыму. Для некаторых астрог быў апошнім зямным прытулкам, для іншых — месцам, дзе гартаваўся дух, бо, як вядома, турма не толькі ламае, але і развівае волю да супраціву.

Першымі «палітычнымі» вязнямі турмы хутчэй за ўсё былі паўстанцы 1830—1831 гадоў, да якіх царскія ўлады паставіліся надзвычай ліберальна: кожнаму з інсургентаў далі па камеры, а таксама гарачы паёк. Іх паслядоўнікам, паўстанцам 1863—1864 гадоў, пашанцавала менш, бо такога лагоднага стаўлення з боку расійскай імперскай адміністрацыі ўжо не было. Праз недахоп месцаў у камерах паўстанцаў трымалі ў двары, многія з іх цярпелі не толькі голад ды холад, але знявагі і катаванні.

Па абвінавачванні ў распаўсюдзе «шкодных» ідэй у гэтай турме сядзеў Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч разам з дачкой Камілай. З прычыны адсутнасці доказаў яго пасля выпусцілі, але паліцыя «прыглядала» за драматургам да канца яго жыцця.

У «нашаніўскі» перыяд адзін за адным у турму траплялі будучыя светачы нацыянальнай культуры. Так, вядомы беларускі пісьменнік Карусь Каганец паспеў двойчы пабываць у астрогу: у 1905—1906 і 1910—1911 гадах.

Аўтар зборніка вершаў «Матчын дар», беларускі паэт Алесь Гарун, быў арыштаваны за падпольны друк і прыгавораны да дзесяцігадовай высылкі ў Іркуцкую губерню, а пачынаў свой шлях у Сібір акурат з Пішчалаўскага замка.

Якуб Колас да таго, як стаць класікам беларускай літаратуры, актыўна займаўся «палітыкай». Са школьнай лавы ведаем, што ён браў актыўны ўдзел у арганізацыі нелегальнага сходу настаўнікаў, за што быў арыштаваны і асуджаны на тры гады зняволення. Шкада, на школьных занятках рэдка кажуць пра тое, што малады настаўнік Канстанцін Міцкевіч мог пазбегнуць вязніцы, наўпрост уцёкшы з судовай залы, але не зрабіў гэтага, бо за кратамі заставаліся яго сябры і паплечнікі... Знаходзіўся Якуб Колас у менскай турме ў 1908—1911 гадах. За час свайго зняволення ён напісаў шмат вершаў, частка з якіх была прысвечаная турэмнаму жыццю і склала асобны раздзел у яго дэбютным зборніку «Песні жальбы», які пабачыў свет у 1910 годзе. Менавіта ў Пішчалаўскім замку ён задумаў сваю «Новую зямлю».

Будучы «начальнік» Польскай дзяржавы Юзаф Пілсудскі, які ў маладыя гады актыўна цікавіўся сацыялістычнымі ідэямі, за ўдзел у змове з мэтай забойства Аляксандра III быў прыгавораны да пяці гадоў высылкі. Этапаванне ў Сібір ён чакаў у Пішчалаўскім замку.

Фелікс Дзяржынскі, іншы вядомы паляк беларускага паходжання і аматар сацыялізму, з якім Пілсудскі разам вучыўся ў гімназіі, згодна з некаторымі сцвярджэннямі, быў адзіным чалавекам, якому ўдалося ўцячы з астрогу падчас аднаго з чатырох этапаў, якія праходзілі праз менскую турму.

У Пішчалаўскім замку давялося пабываць яшчэ аднаму вядомаму сацыялісту, тэрарысту, перакананаму антысавецтчыку і неблагому літаратару — Барысу Савінкаву, якога змясцілі ў турму пасля арышту ў Менску ў 1924 годзе. За краты ён трапіў пасля аперацыі «Сіндыкат-2», распрацаванай ГПУ для выкрыцця і знішчэння антысавецкага падполля на тэрыторыі СССР. Каб заманіць Савінкава на савецкую тэрыторыю, была створаная фіктыўная антысавецкая арганізацыя, якую ён павінен быў узначаліць. Яўкі, паролі, зброя — усё было па-сапраўднаму, таму ён і «павёўся».

У 1932 годзе пасля нелегальнага пераходу савецка-польскай мяжы ў Пішчалаўскім замку сядзеў паэт Максім Танк. Яго таксама спрабавалі справакаваць і выкрыць у ім шпіёна, падсадзіўшы ў камеру стукача. Неадназова той казаў Максіму Танку, што збіраецца перабрацца ў Заходнюю Беларусь, набыць там хату і працаваць на пана. Падбіваў на гэта, відаць, і Максіма Танка. Але замест слоў згоды, што за мяжой сапраўды лепш, правакатар быў збіты будучым паэтам. Пасля свайго вызвалення Максім Танк вернецца ў Заходнюю Беларусь і будзе арыштаваны і пасаджаны ў Лукішскую турму ўжо польскімі ўладамі.

На дадзены момант Пішчалаўскі замак — следчы ізалятар №1 — знаходзіцца ў працэсе закрыцця і пераносу ў іншае месца. Можа быць, у будучым мы зможам пабачыць камеры, дзе знаходзіліся згаданыя «дзеці» Пішчалаўскага замка...

# Без Айчыны

## З кнігі турмы і замежжа



Уладзімір НЯКЛЯЕЎ

### Айчына

*І любоў, і надзея, і вера
Прамінаюць. А лёс — не міне.
Зноў я ў пастцы. Нібыта на звера,
Час паставіў яе на мяне.*

*Пастка лязгнула ўсімі замкамі,
Жорсткай сілай жалеза ўсяго.
Як я жылы ні рву — я ў капкане.
Мне не вырвацца з болю майго.*

*Я адгрыз перабітую лапу,
Але боль не адгрыз! Ён злавіў
Мяне там, дзе ад болю я плакаў,
Там злавіў, дзе ад болю я выў.*

*Не знаходзіў збавення нідзе я —
І парваў, калі жылы напруг,
Ланцугі і любві, і надзеі,
Ды застаўся Айчыны ланцуг.*

*Я трываў з ім усе мае болі,
Гэтак звыкся, так зжыўся я з ім,
Быццам быў ён не знакам няволі,
А святым абярэгам маім.*

*Да крыві націраючы шыю,
Ён цягнуўся за мною праз лёс,
І я чуў толькі тое, што выю,
І туманіўся зрок мой ад слёз.*

*Дзе б ні бег я, звінеў у тумане
Амулет мой, ланцуг-абярэг:
«Ад сябе не ўцячэш! Ты ў капкане!
Лапа ў пастцы, куды б ты ні бег!*

*Дзе б ні быў ты — крывёю ты дома,
На зямлі, прад якою ў даўгу!..»
І хімеры Айчыны, фантомы
Пульсавалі ў маім ланцугу.*

*Як я верыў фантомам! Хімерам!
Хоць крычалі ўсе болі: «Не вер!
Звер тады называецца зверам,
Калі ён не прыручаны звер!*

*Калі ён не служыў, не належыў
Анікому! За грошы — ці так!..»*

*І ў трызненнях, у снах і відзежах
Я ўгрызаўся Айчыне ў гарляк!*

*У пасцелі з ануч і кудзелі —
У дзіцячай калысцы маёй! —
Мы ўабдымку смяротна хрыпелі,
Уабдымку сцякалі крывёй!*

*І кідаліся ўсе яе суддзі,
Ка́ты ўсе — на мяне аднаго!..
А яна раздзірала мне грудзі,
Прыпадала да сэрца майго.*

*Мы сябе ўжо жахаліся самі —
Двух звяруг з адным сэрцам на двух...*

*Але сны заставаліся снамі,
Ланцугом заставаўся ланцуг.*

*І наважаны ім на ўспаміны,
На калыскі, магілы, руіны,
На фантомы, хімеры любві,
Ланцуговы сабака Айчыны —
Я лізаў яе рукі ў крыві.*

***29.02.2024, Уроцлаў, Польшча.***

***

*На целе нашым — да хрыбта пракусы.
У жылах — кроплі стомленай крыві.
Апошнія на свеце беларусы
Памруць з малітвай: «Беларусь, жыві!»*

*Але малітва мёртвых не ўратуе,
Не верне іх з нябытавых дарог,
Бо дзе і хто малітву ўчуе тую,
Калі паўсюль не беларускі Бог?*

***13.10.2022, Кракаў, Польшча.***

### Сцяна

*Як мы адолеем гэту разлуку?
Чым мы засыплем бяздонны разлом?
Беспраўдная энергія гуку
Нам дапаможа? Пакінуты дом?*

*Не аціхаюць над ім навальніцы,
Б'юць бліскавіцы люцей і люцей!
Мы не паспелі ў тым доме нажыцца,
Узгадаваць не паспелі дзяцей.*

*Не ўзгадаваныя, кім яны стануць?
Напаўзабытыя, кім станем мы?..
З болем, з адчаем вяртаецца памяць
Да непабураных сценаў турмы.*

*Птушкай параненай ледзьве крыляе,
Перамагаючы боль нажавы,
Б'ецца аб сцены, за краты гукае,
Каб адазваўся хоць нехта жывы.*

***3.01.2924, Уроцлаў.***

***

*Мы тут. А сэрцы нашы там,
Дзе вашы ка́ты. Вашы суддзі.
Ды нас судзіць не ім. Не вам.
Раздзеленыя напалам,
Мы сыйдземся грудзямі ў грудзі,
Пральем адно аднаму кроў,
Разрэжамся, зрасцемся зноў,
Бо разам нам
на Божы суд,
Што не міне ні там, ні тут.*

***Вялікдзень-2024, Уроцлаў.***

***

*Мяне ў Бога вымаліла маці.
І казала маці немаўляці:
«Не цябе, сынок, я нарадзіла,
А таго, што ў Бога папрасіла».*

*І я думаў: калі так, тады
Папрасі ты, маці, праз гады
Бога, з чыйго семя я з'явіўся,
Каб яшчэ ў змяі я нарадзіўся.*

*Папрасі, каб я з'явіўся змеем,
Што ў змяіным свеце жыць умее.*

***19.01.2023, Уроцлаў.***

### Сыход

*Надзеі ўсё меней.
Яе зненадзейвае час.
Не паціхай нас пакрывае.
Згрызае іржою.
Мы час свой прайгралі бясчассю —
і ўжо сярод нас
Не будзе герояў.
Укрые зямля нас мяжою.*

*Забудземся, хто мы?
Адкуль мы?
Як нас называюць?..
А нашы героі
у турмах Радзімы
сканаюць.*

*Радзіма, Радзіма...
Валошкі па полі ды лён...
Бязмежная сінь над курганамі
і над крыжамі.
Ніхто там не ўчуе ні плач наш,
ні стогн, ні праклён —
На нашых магілах крыжы
мы паставілі самі*



Фота pxhere.com

*Без даты народзін і смерці,
без нашых імён...*

*Адна толькі сінь
над крыжамі
і над курганамі.*

***15.10.2023, Вільня.***

### Па дарозе з Кракава ў Брно

*Айчыны трызненні... Яе прыцягненні...
У лёхі яе... У яе сутарэнні...
У багны ўспамінаў... На самае дно,
Дзе ў цемры не ўцяміць,
чым цягне яно,
Дзе ўсё, што пакінуў,
балючае, лішняе!..*

*Дзе памяць слізгае вужакаю ўвішнаю
Не па дарозе з Кракава ў Брно,
А па дарозе з Ракава ў Вішнева...*

***23.04.2024, Уроцлаў.***

### Шлях дажджу

***Марыне Адамовіч***

*Мы ўваходзілі ў заўтрашні дождж.
Ён яшчэ ледзь накрапваў, бо ўсё ж
Быў ён заўтрашні. Мы ў ім былі
Не сягоннняшнімі. Мы брылі,
Як блуканцы, што страцілі шлях,
Напрасткі па лугах і палях,
Па пясках, па каменнях — і дождж
Разам з намі ішоў басанож.*

*Мы не ведалі, што нам чакаць
У дарозе. Дзе есці, дзе спаць, —
Мы не ведалі. Проста ішлі,
Як праходзяць дажджы па зямлі,
Па лугах і палях басанож...*

*Нам і ўпоперак шляху, і ўздоўж
Шкло пад ногі кідалі, цвікі,
Дрот калючы кідалі, які
Упіваўся ў падэшвы іржой,
Хоць мы крочылі не па чужой,
Па сваёй мы ішлі старане...*

*Але не! Але не! Але не! —
Не было тут нічога свайго,
Ані слова свайго, ані рэха,
Толькі з нашага шляху пацеха,
З Бога, з нашых надзей на Яго
І з кахання, якое праз дождж
Разам з намі ішло басанож
Па цвіках, па калючых дратах,
Паміж іх пракладала нам шлях,
Памагала ісці ледзь жывым,
Цалавала і брала ў абдымкі
Скрываўленых ад ран... —*

*А на ім
Ані драпінкі, ані крывінкі!*

***28.07.2023, Уроцлаў.***

### Санэт

*Жывеш скрозь болі, роспачы, знямогі,
Каб прачытаць урэшце ў кнізе вед:
«Убогі свет, калі народ убогі,
Народ убогі, калі ўбогі свет».*

*І не змяніць закон спрадвечна строгі,
Як не змяніць рух зорак і планет,
І хоць на небе абівай парогі —
Такі ж закон і той жа запавет.*

*І калі ўжо нідзе няма збавення,
Калі, як смецце, свет цябе грабе,
Са свету выйдзі — і ўвайдзі ў сябе,
Як у адзіны дом твой на зямлі,
І пасялі ў ім гонар і сумленне,
Якія, як бяздомныя, жылі.*

***13.06.2019, Швецыя, Лунд.***

***

*...І што з таго, што ты
не паступіўся
Сумленнем, што нікога не прадаў,
Што ты маной ад праўды
не прыкрыўся,
Што подласці праходу не даваў,
Даносы не пісаў, не агаворваў
Людзей, якіх і знаў ты, і не знаў,
І сам сабе не наступаў на горла,
Халопам на каленях не стаяў,
Ад панскай ласкі не трымцеў,
не млеў,
Не здрадзіў Слову,
хлеб не свой не з'еў,
Ніколі і нідзе не ўзяў чужога —
І што з таго ўсяго?!.*

*Адно: што ты нічога
За хіжасць, подласць, здраду
Не займеў.*

***26.05.2024, Уроцлаў.***

***

*Быць можа, ты вярнуўся
ў бездань гэту,
І, можа быць, знайшоў,
што там згубіў,
І нават тых сустрэў, каго любіў,
Хто абдымаў цябе,
кім дом твой быў сагрэты,
І кім ты ўратаваны быў, калі
Цябе бясследна
бездань паглынала...*

*Ты ўсіх знайшоў! І іх яшчэ мала!
Але яны не тыя, што былі.*

***25.05.2024, Войнавічы, Замак на вадзе.***

### Закон

***Лявону Барщчэўскаму***

*Адзін для ўсіх закон быцця.
Яго не скрэсліць і не сцерці.
Няма ні смерці без жыцця —
І ні жыцця няма без смерці.*

*І для людзей, і для звяроў
Няпісаны закон прыроды:
Без ворагаў няма сяброў —
І без турмы няма свабоды.*

*На тым стаіць зямная цвердзь.
А Бог з нябёсаў пазірае,
Як воля турмы разбурае,
Жыццё перамагае смерць.*

***4.03.2023, Уроцлаў.***

### На лязе

*Андрэю Скурко*

*Розны лёс у лазы ў сухадоллі —
і каля вады.
З глыбіні каранёў набіраюцца
сілы галіны.
Зноў наш лёс на лязе.
Зноў крывавыя целім сляды
Па разрэзаным краі,
па рассечаным целе Айчыны.*

*Зноў у сініх нябёсах
чырвонага дыму клубы,
Зноў над безданню мы,
зноў над прорваю
шлях абрываецца,
Налятае віхура,
выварочвае вецер дубы,
А рачная лаза гнецца долу,
але не ламаецца.*

*Ані вецер яе, ні віхура
не возьме на злом.
Нахіляецца долу яна,
бы ў малітве манашка.
Лёгка гнецца лаза...
Ды галіны адсекчы лязом,
Ці карэнні лязом перарэзаць
таксама не цяжка.*

*Лье лаза да ракі — і плыве
разам з ёй у цішы
Да аблокаў, да неба,
да Бога ў дзіцячым даверы,
Што не ўзлюбіць Ён тых,
хто з лазы выплятае кашы,
І не дасць ім ляза!
Ні нажа ім не дасць, ні сякеры!*

***18.03.2024, Варшава-Уроцлаў.***

# Шварцброт



Міхаіл КОНАН

Пасля чарговых вайсковых вучэнняў з баявой стральбой на Магдэбургскім палігоне першае аддзяленне ўзвода старшага лейтэнанта Стасюка вярталася праз пяць дзён у часць. Машыны з гарматамі на прычэпе адпраўліся ў першым эшалоне. А яфрэйтар Сяргей Яхонін на старэнькім спецыяльна размаляваным вялізнымі чорна-зялёнымі плямамі «ЗІСе», калі стала прабуксоўваць муфта счаплення, з'ехаў з брукаванкі і заглушыў матор.

— Я ж казаў: трэба было яшчэ ў боксе памяняць дыскі... Дык не. Загадана — едзь!

Звычайна негаваркі і марудлівы яфрэйтар, выбраўшыся з-за руля, коса глянуў на камандзіра ўзвода, падгалістага і худога з твару старлея Стасюка, які заставаўся ў кабіне, і з усяго размаху ўдарыў ботам па пярэднім коле машыны, адкрыта помсцячы афіцэру.

— Гаварылі ж мне хлопцы ў боксе: за руль гэтай «бабулькі» не садзіцца. Ат! Што тут гаварыць!

Яхонін быў цельпукаваты, шырокі ў плячах. Невядома, як толькі ён умяшчаўся за рулём. Вышэйшы ледзь не на цэлую галаву за старлея, ён цяпер сядзеў на ўзбочыне дарогі і са злосці кусаў нейкую зялёную травінку, зыркаў і на афіцэра, і на салдат. А яны, канечне, не былі вінаватыя.

Нямецкую вёску ў якую сотню прысадзістых дамкоў, часцей цагляных, з пачарнелымі рэбрамі драўляных бэлек на франтонах, пад чырвонай луской чарапічных дахаў, праехалі, лічы, «салдацкай цягай». Пхнулі машыну злосна і неяк, здавалася, нехаця. Іншы раз на хаду чапляліся за барты і ўскоквалі наверх.

Адзін раз, калі муфта счаплення ўсё ж неяк раз-пораз торгала вялікую машыну па брукаванцы, сяржант Валодзька Гоман, сарваўшыся з правага борта, ледзь не патрапіў пад задняе кола. Проста паспеў адпіхнуцца. А машына, грымучы ў кузаве скрынкамі з пустымі гільзамі ад снарадаў, набраўшы хуткасць, праехала ўсё ж некалькі дзясяткаў метраў.

Зрэшты, Гоман асабліва і не спужаўся.

— Нічога... Гэта проста каскадзёрскі трук. Пасля дэмбеля ў цырк падамся, — супакоіў больш сябе Валодзька, збіваючы дрыжачымі рукамі смецце з пілоткі.

Салдаты са ўзвода, хто бачыў, як сяржант лоўка адпіхнуўся ад жалезнага борта машыны, падтрымалі яго дружным рогатам. А Гоман прывычным рухам правай рукі ўскінуў пілотку на абстрыжаную «пад катоўскага» чарнавалосую галаву і весела бліснуў сінімі вачыма.

— Го!.. Мы яшчэ паваюем! Нідзе ні дзенецца наш «ЗІСок», і даедзе ён у часць як міленькі... Вось толькі ў жываце бурчэць стала. Яму не цырк, а салдацкая каша трэба.

Салдаты меркавалі, што ўдасца праскочыць вёску, каб не застацца тут на ноч. Не сказаць, каб яны асабліва нечага баяліся. Калі дні два таму, яшчэ ў пачатку вучэнняў, спыніліся ў маленькай вёсачцы, каб набраць з сабой пітной вады, машыну акружылі цікаўныя падлеткі, лічы, як нашы васьмікласнікі.

— Камрат, раўхэн, біттэ[1].

Нехта яшчэ здаля махаў рукамі, хтосьці ўжо няўмела круціў з крамяньчугскай з чырвонымі літарамі на пачках вельмі ўжо моцнай салдацкай махоркі самаробную цыгарку. Старшы лейтэнант нарэшце вылез з кабіны і дастаў з пачка сваю, рэдкую тады для салдат цыгарэту з фільтрам і прапанаваў падлеткам.

— Найн, камрат, найн, данкэ[2], — замахалі рукамі яны: відаць, ім хацелася паказаць дзяўчатам, якія таксама бязладна таўкліся побач, што яны ўжо дарослыя і нават могуць курыць сапраўдную рускую махорку, а не гэтыя дзіцячыя цыгарэты.

Але пасля адной-двух зацяжак у самага смелага, крыху старэйшага за астатніх светлавалосага хлопца, які быў у сіняй футболцы, пачаўся такі кашаль, што, гледзячы на яго, больш нікому не захацелася курыць самаробныя салдацкія цыгаркі.

У адзін з дзён вучэнняў заехалі ў горны глухі куток Цюрынгіі, якую ў вайну без баёў занялі амерыканцы. Там, па ўсім відаць, мясцовыя жыхары наўрад ці бачылі калі «рускага» салдата. Тут таксама нешматлікія падлеткі з цікаўнасцю махалі вайскоўцам. Але і старшы лейтэнант, і яфрэйтар Яхонін, і ўзводны запявала Валодзька Гоман бачылі і людзей сталага ўзросту. Яны часцей моўчкі глядзелі здаля на салдат, а некаторыя, асабліва хто быў на мыліцах, не хаваючыся, грозілі кулакамі наўздагон вайсковай калоне. Ды й не дзіва: пасля вайны прайшло ўсяго нейкіх пятнаццаць гадоў. Нічога ж яшчэ не забылася...

Яшчэ на другім годзе службы, калі — таксама на вучэннях — вайсковая калона, дзе была і машына старлея Стасюка з супрацьтанкавай гарматай на прычэпе, заехала ў горы, сяржанту Гоману было чаму здзіўляцца. Ён вырас у ціхай раўніннай беларускай вёсачцы, і такія, парослыя рэдкім хвойным лесам, горныя кражы з крутымі вузкімі дарогамі над абрывамі, з глыбокімі, у трыццацьпяцьдзясят метраў цяснінамі дагэтуль не даводзілася бачыць.

Калі нарэшце з цішы лесу, дзе яшчэ месцамі ляжаў пажоўклы снег, у нізіне зачырванела дахамі нямецкая вёсачка, сябар Валодзькі, таксама сяржант, Мішка Малей радасна таўхнуў Гомана пад бок:

— Глядзі! Ву-у-нь на схіле гары... Бачыш?

А там, неяк упрэжаная ў плуг, паволі ўзбіралася ўверх вялікая рыжая карова. За плугам ішоў чалавек у капелюшы і шарачковай світцы. На нагах у яго былі гумовыя, здалёк нават бачна было, бліскучыя боты. Не толькі Гоман з Малеем, а і ўсе байцы скіравалі вочы ў той бок.

— Во даюць бюргеры!

— Гэта ж трэба — араць на карове.

— У нас у вёсцы адразу пасля вайны быў бык Макартур. Дык на ім па чарзе вяскоўцы і аралі. Коней жа амаль не было. А тут — карова!..

Салдаты бязладна загудзелі. Кожны каментаваў убачанае як толькі мог і ўмеў. І ўсе — у асноўным здзекліва. Маўляў, хвалёная Еўропа, дзе ў другой палове дваццатага стагоддзя яшчэ на каровах аруць.

— А як бюргер тую рыжую туды, на такі круты адхон, зацягнуў? — здзівіўся Малей.



— Дурань ты! — умяшаўся высокі хударлявы таджык Тагіраў. — Карову, канечне ж, можна. А трактар — толькі на верталёце. А так чалавек там нешта і пасее. У нас, у гарах, на такіх вось стромных схілах мы толькі на ішаках і ўпраўляемся.

Калі вайсковая калона ўжо амаль цалкам спусцілася ў даліну, рух аўтамабіляў зусім запаволіўся. Дарога па-змяінаму пятляла, і ўбачыць галаву калоны з машыны Валодзькі — як ні сіліўся — ніяк не мог.

Тут, у даліне, не было снегу. Уздоўж брукаванкі на ўзбочынах ужо зацвіталі нейкія жоўценькія, пэўна, маць-і-мачыха, кветкі, з'явіліся дзе-нідзе вострыя носікі зеляніны. Сакавіцкае сонца, падняўшыся з-за сіняй аграмады гор з чорнымі на фоне лілована неба зубцамі хвой, тут, унізе, прыпякала быццам улетку: зырка і млосна. Пад рытмічнае гойданне машыны па дарозе Гоману ўспомніліся падобныя гарачыя дзянькі ў вёсцы. Іншы раз ён, растросшы свежыя пракосы мятліцы і дзікай канюшыны ля гумна, з разбегу куляўся на ўчарашнія недасохлыя капешкі мурагу і, раскінуўшы ў знямозе рукі, лавіў да болю ў вачах чорную кропачку жаўрука ў небе, які ўсё звінеў і звінеў у вышыні...

— Ты што, заснуў? — таўкануў Валодзьку пад бок Мішка Малей. — Глядзі, ву-унь наперадзе, справа. Ну і бюргеры! Гэта ж трэба!..

Калона машын з гарматамі, палявымі кухнямі, афіцэрскімі «газікамі» паволі брала ўлева, каб абмінуць дзівосную для ўсіх вайскоўцаў павозку. Невялікія самаробныя калёсы на гумавых колах былі амаль даверху загружаны гноем. Ззаду іх падпіхаў правым плечуком каржакаваты ў расхрыстанай кашулі сярэдніх гадоў аднарукі мужчына. Раз-пораз ён торгаў левай рукой лейцамі, кіруючы «рухавіком». Гэта быў вялізны, з добрае цяля, чорны вяпрук. «Шварц швайн», падумаў пра сябе Валодзька. І дзіўным было не толькі гэта. Ні вяпрук, ні сам яго гаспадар нікольki не баяліся руху і грукату цэлай вайсковай калоны: павозка паволі рухалася па толькі вядомым гаспадару кірунку на суседняе поле. А яно ўжо на палову было занята роўнымі радамі кучак гною. Гаспадар, відаць, рыхтаваўся тут сеяць.

Доўга не маглі супакоіцца ад убачанага і рогату і яшчэ хвілін пяць азіраліся назад, калі вайсковая калона ўжо мінула дзіўную для ўсіх павозку.

Тут многае для савецкіх салдат было навіной. І самі горы, і сельскія брукаваныя дарогі, абсаджаныя чарэшняй, вішаннікам, яблынямі ці грушамі, і маленькія востраверхія кіркі ў вёсачках, і прылепленыя дзе-нідзе над горнымі кручамі, быццам ластаўчыныя гнёзды, старажытныя замкі. Ды і самі мясцовыя жыхары, часцей за ўсё маўклівыя старыя ці сярэдняга ўзросту сяльчане, па ўсім адчувалася, не надта паважаюць савецкіх салдат.

Тут, у Цюрынгіі, быў выпадак, калі, відаць, былыя нацысты змаглі неяк зняць вартавога і застрэліць потым усіх чатырох вайскоўцаў адзіночнай радыётэлеграфнай станцыі. Да таго ж, у Берліне толькі што была ўзведзена сумна вядомая сцяна. У паветры, як кажуць, вельмі пахла трэцяй сусветнай...

Салдаты ўзвода старшага лейтэнанта Стасюка, безумоўна, ведалі гэта. А тут з-за сапсаванай ушчэнт муфты счаплення перагрэўся рухавік і ў чарговы раз закіпела ў радыятары вада.

Заканчэнне на стар. 7 »

[1] Таварыш, курыць, калі ласка (ням.).
[2] Не, таварыш, не, дзякуй.

# Шварцброт

« Заканчэнне.
Пачатак на стар. 6

— Так, — цвёрда загадаў старшы лейтэнант, — Яхонін, Гоман, марш па ваду!

Машына спынілася, лічы, у самым цэнтры вёскі, насупраць нейкай ці то кавярні, ці то рэстаранчыка. З-за акружанай старымі вязамі, роўна падстрыжанымі алейкамі з барбарысу ці іншага кустоўя, свяцілася аднапавярховая будыніна з двума прыбудовамі ў выглядзе літары «у». Там глуха гучала музыка. Відаць, адзначалася нейкае свята.

— А чаму я? — ускінуўся Валодзька.

Іншага б салдата старшы лейтэнант, несумненна, абсёк і паставіў бы на месца. А сяржант Гоман быў для камандзіра ўзвода не проста востры на язык, а яшчэ і незаменны запявала. Яму ўзводны многае даравал. Нават аднойчы, калі разам за тэрыторыяй часці правяралі, ці ходзіць хто з афіцэраў ці, тым больш, салдат у самаволку, старшы лейтэнант дазволіў выпіць куфаль піва. Колькі разоў было, калі на страявым аглядзе, каторы часцей за ўсё прымаў сам камандзір дывізіі, які, казалі, дайшоў у вайну да Берліна, камандзір узвода гучна і, здавалася, радасна камандаваў:

— Запя-вай!

Валодзька ведаў, што гэта датычыцца найперш яго. Бо ва ўзводзе былі ўсяго два запявалы: ён і Мішка Малей. Таксама з Беларусі. Яны здружыліся яшчэ на першым годзе службы: усё ж — землякі. А ў далёкай чужбіне гэта вельмі многае значыць. Толькі вось на страявых аглядах ці парадах звычайна першым пачынаў сяржант Гоман.

Па ваду пайшлі з адным вядром, але ўдваіх. Так было больш упэўненасці. Мала ці што якое можа здарыцца ў чужой старане.

У рэстаране-кавярні было паўнютка людзей. У самай дальняй зале бухаў барабан, гучаў баян. Ішлі танцы. А ў пярэднім пакоі, дзе былі краны з вадой, у кутку размяшчалася піўная стойка. Побач — тры круглыя столікі з высокімі сядзеннямі наўкруг. За адным сядзелі двое даволі пажылых бюргераў. Адзін з іх, відаць, з даўно патухлай ужо тоўстай кубінскай цыгарай, якая ледзь ліпела на ніжняй губе. За другімі столікамі — маладыя хлопцы і дзяўчаты.

Ці то хтосьці скамандаваў, ці музыкі самі ўбачылі савецкіх салдат, але ў зале для танцаў усё раптам сціхла.

— А давай, зямляк, па куфлю піва! — рызыкнуў Валодзька. — У мяне вось апошнія маркі засталіся. — Стасюк сцерпіць, калі што якое. Мы — хуценька.

Куфаль піва быў больш за паўлітра. Але хлопцам не было часу смакаваць яго, як тыя два старыя з цыгарай у зубах. Яна згарэла амаль да канца, а піва ў іх куфлях было яшчэ дзесьці на два пальцы. Салдаты выцадзілі піва ўсяго за два «уф!», а прамільгнулі толькі з дзве хвіліны.

І музыкі, і танцоры, і аматары піва, што дагэтуль размарана сядзелі ў «прылазніку», як падумаў сяржант Гоман пра гэта невялічкае памяшканне, кінулі сваю справу і са здзіўленнем глядзелі на «рускіх» салдат. Пэўна ж, здзіўляліся, як так можна адразу выпіць столькі піва? Лічы, адным махам. А можа, яны восьвось зваляцца ад гэтага на парозе?

Але салдаты нават не выплеснулі ні кроплі вады з вядра і, тым больш, не спатыкнуліся. Яны адчувалі, што іх спіны буравяць дзясяткі вачэй. Хто са здзіўленнем, а хто і са злосцю. Маўляў, русіш швайн. Што з іх узяць. Дзікары. І гэта яны нас, арыйцаў, перамаглі!? Што яны за людзі такія?

Паход па ваду быў дзесьці апоўдні.

Ужо даўно выпетрыўся той пах піва і надышоў час вячэры, а сухі паёк скончыўся яшчэ раніцай, калі калона машын толькі рушыла ў размяшчэнне часці.

Машыну сяк-так выпхнулі дзесьці за паўкіламетра за вёску. Побач — зжатае поле жыта. Вялізныя круглыя, як пераканці-поле, кулі саломы роўнымі радамі ляжалі ўздоўж вузкай брукаванай дарогі.

Сонца паступова хавалася за пукатую гару, парослую зубчатым хвойнікам, якая, здавалася, сама насоўваецца на вёску.

З блізкіх садоў, якія амаль паўсюдна акаймоўвалі недалёкія белыя дамкі, вецер даносіў пахі жнівенскіх яблык і груш. Тут жа, уздоўж дарогі, раслі толькі чарэшні. Іх час мінуў яшчэ ў маі.

Есці хацелася ўсім. Але, бадай, больш усяго яфрэйтару Яхоніну. Яму, як самаму высокаму, у салдацкай сталовай прызначалася звычайна двайная порцыя. А тут — нічога.

Ні радыё, ні іншай сувязі з часцю ў той час у старшага лейтэнанта Стасюка не было. Як-небудзь паведаміць туды, што аддзяленне з-за сур'ёзнай паломкі тэхнікі засталося начаваць у полі і яшчэ без яды, ён не мог. А, можа, і не надта хацеў, бо з сабой, відаць, — ужо навучаны, — вазіў не толькі афіцэрскі планшэт, а і акуратную валізку з харчам.

Назначыўшы вартавых і ўсухамятку нечым надта ўжо духмяным павячэраўшы, старлей зняў хромавыя і нават тут наваскаваныя боты і адкінуўся на сядзенне падрамаць.

Леглі, зашыўшыся ў нагрэтую за дзень на сонцы салому, і галодныя салдаты. Але мала каму спалася.

— Валодзька, — штурхнуў яго пад локаць Мішка Малей, — а давай згойсаем да немчукоў па яблыкі. Тут жа блізка.

— Ты што, — здзівіўся сяржант, — зусім здурнеў?! Не ведаеш, што дзеецца ў свеце? А яшчэ тут мы з гэтым півам... Ты ж помніш, як яны глядзелі на нас там, у рэстаранчыку?

Валодзька ніколі не забываў аповед Мішкі пра фашысцкую блакаду іх вёскі, пра тое, як яго з маці і старэйшай сястрой карнікі вялі ў цэнтр паселішча. Пэўна ж на нейкую расправу, як гэта яны рабілі з многімі партызанскімі сем'ямі. Калі ішлі праз кустоўе, па калёснай дарозе, маці выпхнула трохгадовага Мішку і сястру з натоўпу.

— Бяжыце да цёткі ў Выселкі! Скажыце пра ўсё партызанам, што тут у нас робіцца.

І дзецям удалося зашыцца ў гушчар. Па іх нават ніхто і не страляў...

А цяпер Мішка нешта прамармытаў, але больш не чапляўся да Гомана. Валодзька ведаў, як люта ненавідзеў Малей фашыстаў.

Сяк-так заснулі. Але дзесьці апоўначы іх разбудзіў Яхонін.

— Частуйцеся, — высыпаў ён з рэчмяшка з тузін нейкіх крыху прадаўгаватых навобмацак яблыкаў. — Ешце. Хлопцы прынеслі яшчэ і груш. Я ўжо з дзясятак з'еў, пакуль бег ад вёскі. Там сабакі загаўкалі. Пэўна ж іхнія градкі патаптаў, калі ўцякаў. Некалі было глядзець пад ногі...

Назаўтра раніцай амаль ва ўсіх салдат яшчэ бурчэла ў жываце, але есці ўсёроўна хацелася.

Старшы лейтэнант не ведаў, канечне, пра начныя налёты яго падначальных на нямецкія сады і спакойна драмаў у машыне.

Пазней, калі ўжо сонца падсушыла жнівеньскую расу, Яхонін, які таксама спаў на саломе, зноў вярнуўся ў кабіну, галодны, маўклівы і злы.


Фота livejournal.com

Ніякіх пасыльных, машын ці іншых вестак з часці не было, і салдаты занерваваліся.

— Таварыш старшы лейтэнант, — першым не вытрымаў Гоман, — трэба ж нешта прыдумаць, каб перакусіць. Мы ж з учарашняй раніцы нічога не елі. Ну хоць бы які батон, хаця б чорнага хлеба. Ды з іхнім маргарынам. Гэта ж дзешавей будзе. Ну, і кускавога цукру колькі пачак трэба. Памятаеце, на леташніх вучэннях нам ужо даводзілася так есці. Вы пазычце марак, хлопцы збегаюць у вёску, купяць.

Праўду кажуць, што той, хто першы праявіў ініцыятыву, — таму яе і выконваць.

— Так, — цвёрда распарадзіўся камандзір узвода, — па батоны пойдзе Гоман! Ён у нас занадта шустры.

Ведаючы, што ў нямецкай вёсцы ўсё можа здарыцца пасля салдацкага набегу на сады, Валодзька таксама цвёрда сказаў:

— Адзін я не пайду! Трэба напарнік. Весялей будзе.

Стасюк выдзеліў Яхоніна. Маўляў, ты, Гоман, вучыў у школе нямецкую мову, а ён — французскую. Як-небудзь згаворыцеся там з немцамі.

Яшчэ па дарозе да вёскі Валодзька спрабаваў выцягнуць з памяці хоць якія нямецкія словы, але апроч біттэ, эссэн, брот і шварц[3] нічога ўспомніць адразу не мог.

У вёсцы, у каго б яны ні спыталі, дзе ёсць хлебная крама, немцы ўсе як адзін накіроўвалі іх туды, дзе прадаюць спіртное. Пэўна ж думалі, што «рускім» салдатам больш нічога ў жыцці і не трэба. А, можа, і нарочна паказвалі не туды, каб паздзеквацца.

— Ат, — секанух у паветры рукой Валодзька, — давай будзем самі чытаць. Ты лацінскія літары не забыўся?

Насустрач ішлі людзі. Праехалі на веласіпедах дзве маладыя немачкі. Адну, здалося Гоману, ён некалі бачыў.

Валодзька ў галаве саставіў і завучыў цэлы сказ па-нямецку: як сказаць, што, маўляў, хачу купіць батонаў чорнага хлеба. Ды й калі яшчэ вучыўся ў сяржанцкай школе, тут, у Германіі, яму пашчасціла як запявалу і дысцыплінаванаму салдату пабываць у нямецкай школе, куды яны ездзілі з зампалітам і камандаваннем дывізіі «мацаваць дружбу» з маладымі немцамі.

Нямецкую мову ён тады чуў, як кажуць, ужывую. Нават сам сяк-так, успомніўшы школьныя ўрокі, спрабаваў заляцацца да старшакласніцы Эрыкі. Тады яна нават адрас у Валодзькі папрасіла і свой дала. Вясёлая рагатушка ў файнай кофтачцы і накінутай на шыю ружовай хустачцы, Эрыка страляла шэрымі вачыма і ўсё папраўляла пасмачку валасоў, якія наравілі закрыць ёй вочы. К таму часу Валодзька, як кажуць, ужо з год не бачыў дзяўчат ужывую. А тут — такое шчасце...

Але яно скончылася адразу, як толькі прагучала каманда «Выходзі строіцца!».

У краме, якую Гоман з Яхоніным знайшлі самі, было ўсяго пяць-шэсць пакупнікоў, забеглі дзве дзяўчыны ў спартыўных маечках. Іх салдаты бачылі, калі шукалі краму. Усе нямецкія пакупнікі далікатна расступіліся, калі салдаты падышлі да прылаўка.

— Дайце нам сем батонаў... — пачаў па-нямецку Гоман завучаную загадзя ў памяці фразу і спатыкнуўся, аж кроў стукнула ў галаву. Ён пачырванеў ад натугі і няёмкасці. Як сказаць далей: шварц (чорны), ці швайн (свінячы) хлеб?. На нейкую долю хвіліны ў галаве пранесліся словы вадзіцеля Яхоніна, які казаў, што пэўна ж патаптаў, як тое парася капусныя ці агурковыя градкі ў нямецкім садзе. Ды ён жа быў у садзе не адзін, а, лічы, палова адзялення.

І ўсё ж Валодзька з палёгкай потым вымавіў патрэбнае: «шварцброт». І яшчэ дадаў «біттэ», а затым і — «данкэ грос[4]».

Усё гэта з цікавасцю назіралі тыя дзве сяброўкі-немачкі, якія былі ў краме. На вуліцы Валодзька і сапраўды ўбачыў два веласіпеды, прыслоненыя да сцяны.

Услед за салдатамі літаральна выпырхнулі з магазінчыка і маладыя немачкі. Ці Валодзьку здалося, ці гэта было на самой справе, але адна з іх была падобна на... Эрыку.

— Гутэн таг, камрад! — першай пазнала сяржанта дзяўчына...

Потым, блытаючы нямецкія словы з рускімі (тады ў нямецкіх школах вывучалі рускую мову), Эрыка весела прашчабятала, што ў яе цяпер летнія канікулы, што ў гэтай вёсачцы жыве яе цётка і што тут ім вельмі весела.

Валодзька і верыў гэтаму, і не. Ён быў удзячны Эрыцы за памяць. Але больш за ўсё адкрыта любаваўся паўголымі загарэлымі плячыма і такімі, здавалася, мяккімі рукамі дзяўчыны, што гатовы быў тут застацца на ўвесь дзень.

— Пайшлі, — злосна і раўніва тузануў Валодзьку за плячо Яхонін, які вучыў у школе французкую мову і таму нічога не разумеў з балбатні Эрыкі. — Там жа хлопцы чакаюць. Тожа мне Рамэа знайшоўся...

З таго часу Валодзька Гоман паставіў для сябе цвёрдую мэту: вучыць замежныя мовы. Потым змог бы, можа, і Эрыцы напісаць пісьмо. Хаця ў тыя гады салдатам было цвёрда забаронена мець якія-небудзь асабістыя зносіны з мясцовым насельніцтвам. Тым больш — з супрацьлеглым полам.

А Валодзьку пасля звальнення ў запас і вяртання на радзіму ўсё ж пашчасціла з поездам «Дружбы» ад інстытута замежных моў з'ездзіць ва Усходнюю Германію для абмену маладзёжнымі дэлегацыямі. Знайшоў ён тады і Эрыку, расказаў ёй пра свой «шварцброт». Яна шчыра пасмяялася.

А потым усе разам спявалі і нямецкія песні, і нашу «Кацюшу».

[3] Калі ласка, есці, хлеб, чорны (ням.).
[4] Вялікі дзякуй.

# Паміж зорак і хмар…

## Стомленыя экспромты



Данута БІЧЭЛЬ

### Дожджык

*Дожджык стаіць на парозе і плача —
вымак да ніткі, такая няўдача...
Хмаркі растрос, сам сябе паліваў,
дробнай дажджынкай
зямлю прабіваў.*

*Стомлены дожджык, паваленьі плот,
пад частаколінай спіць сабе крот.
Некалі нехта спяваў:
— Сікані,
кроціка ў норку хутчэй прагані!
Дзетак на белым кані праткаці!
Грому з маланкай дай падрасці!*

*Белая хмарка, чырвоная кроў —
гэтак у дожджыкаў, як у звяроў...
Ды калі дзеці не дражняць дажджу,
нейкая вільгаць праймае душу...*

*Так ён стаяў на парозе і плакаў —
ніўку паліў, і такая няўдзяка?!
Дожджык грыбны —
падарунак ад Бога.
Ў хаце чакалі кагосьці другога...*

*Грому чакалі ці стрэлу ў акно?
Хату пакінулі людзі даўно...
Дзе гаспадар, гаспадыня, суседзі?
Ўнучак з чужыны таксама не едзе...*

*Дожджык стаіць на каменнай
прыступцы,
топчацца, нібы таўкачык у ступцы.
Можа, праз крэйку вылезлі з дому
сустрач дажджу, ці Духу Святому?*

*Дожджык самотна ходзіць
па крэйцы,
ключ ад замка шукае ў паветцы.
Сплакаўся дожджык, стаміўся і сціх...
— Ідзі пад бярозкі, там
знойдзеш сваіх...*

*Там і зязюля кукуе ў галлі,
быццам бы людзі жывуць,
як жылі.
Грыб там расце незямной смакаты,
нібы хто вырве той грыб,
сапраўды...*

### Паміж

*Выйдзі, мастачка, за рамку,
адчыні кляновую брамку,
пераскоч праз сваю пералазку,
намалюй жыцця свайго казку.*

*Маладзічок мае вобад,
маладзічок мае клопат:
бо трэба ж па небе хадзіць
ды яшчэ гэты вобад круціць...*

*Цямрэча межаў не мае,
здаецца, маўчыць, нямая,
кроў не цячэ з яе ран.
А можа, гэта падман?*

*А недзе на цёмных хмарках
душы сяброў усміхаюцца:
боль не ўтрымаў іх у рамках,
няхай сабе пакалыхаюцца...*

*Паміж расахатых вербаў
гайданку месячык выбраў,
хвастом зачапіўся за крук,
не мае месячык рук...*

*І я не маю прытулку,
выходжу з хаты на вулку.
Хата мая занята —
сядзіць там адна вар'ятка.*

### Адна

*Адна ў беспрытульнай цямрэчы...
Дзе Твае мужчынскія плечы?
Дзе Айцоўская воля здалечы?*

*Спіхнеш маё сумнае ложа
да супакою паднoжжа,
і скончыцца падарожжа,
Духу Святы, Мой Божа!*

*І прыйдзе новае ранне,
і сэрца балець перастане,
і сонейка не загляне...
Духу Святы, Мой Пане!*

*І хто ж падасць мне кілішак
у мой халодны зацішак, —
хто, як не ты, мой сябра святы,
паэта святы Францішак?*

### Тата

*Заходзіць у сон апаўночы
ў здзірванелы садочак цётчын.*

*Так часта здараецца
ў стомленым сне:
палохае цётчына хата мяне,
так страшна было калісьці,
даўно,
як немец пастукаў да цёткі
ў акно...*

*А неба ў тым сне,
нібы чорная сажа.
А тата глядзіць на мяне
ды і кажа:
— Дануся, аддай мне
нашага хлопца!
Яму ж, як жораву,
палётаць шчэ хочацца.
А тут, дзе лётаюць душы цяпер,
анёлы лётаюць —
без крыл, без прапелера...
Дзе вы жывеце —
там морак, балота...
Сажалка высахла, жораў не лётае.*

*Кажу я тату:
— Ты нас не чапай!
Няхай наш хлапчына,
як чапля, чапае,
нібы ў чарадзейным,
прыдуманым сне...
Няхай пакутуе каля мяне.*

*А ты вяртайся, адкуль прыйшоў, —
да продкаў, да зімародкаў, вужоў!
Ты мяне цётчынай хатай не страш!
Час для палётаў
пакуль што не наш...*

*Шчэ мы даснім чароўныя сны —
спачатку я, а потым яны,
нашчадак твой,
мой стомлены сын...
А прыйдзе час — і мы паляцім...*

### Сон

*Лясная дарога заліта асфальтам.
Ехала я ў машыне з нейкім
ветлівым франтам.
Ці багатыя франты ў снах
выдаюць гранты?
Ці багатыя франты — усе
цяпер эмігранты?*

*Не было ў тым аўто ні руля,
ні экрана...
Нібы гэта пачатак
маладога рамана...
Высокія дрэвы і чыстыя кветкі —
усё, як у вершах
адной забытай паэткі.*

*А паэтка,
з мінулых дзён апанентка, —
амбітная, не маладая какетка,
на сядзенні сядзіць ды са мной
размаўляе
і камень у сне за душой не трымае.*

*Такую мне ночка прыдумала рандку!
Няхай бы той сон не канчаўся
да ранку!
Так ехаць — ад могілкаў
аж да Бурносаў...
Вядома, паэзія — гэта не проза...*

*А душачка мамы,
як сонечны лісцік,
над роднай дарожкай
ляцела кудысьці...
А душачка таты глядзела здалёку —
у добрага Боженькі навідавоку.*

### Сцяг

*За гарою крутой
горад стаў на пастой,
люду ў горадзе — рой,
у людзей свой герой...*

*На гары той смялей,
хто на белай скале
паміж зорак і хмар
кроўю выкрасаў шнар...*

### Выбраныя

*Да мяне пасылаеш
з высокіх яснот
гэты нікчэмны, няздатны народ —
пакалечаны, паламаны,
злы, крыклівы ды апантаны...*

*Я выцiраю ім лапкі,
абуваю на лапкі лапці...*

*Ні ўдзячнасці, ні прывітання —
ні «з Богам», ні «да сустрэчы»...
Хрыпенне ды скавытанне.
Іх вусны мову калечаць.*

*І Ты мне іх аддаеш,
каб жылося ім крыху лепш?
Я сама на самоткім дне...
Дух Святы, выцягвай мяне!*

*На дне нячысты прыцiх,
штурхае пад рэбры ўсіх,
і віжуе там гадаўё...
І яно таксама — Тваё.*

### Учора — як заўтра

*Учора ісці было можна,
але і сёння не позна.
І не адкладвай так болей,
каб не было — на ніколі...*

*І так ты далёка зойдзеш,
і так сваё месца зоймеш...
Запрашай сабе, каго стрэнеш
сярод свайго пакалення.*

*Ідзі за тым, хто марудзіць,
ці перад тым, хто заблудзіць,
за тым, хто цябе стварыў,
перад тым, каго ты ствараеш, —
бо ўсіх сам сабе выдумляеш...*

*Падсвядомасць родзіцца ў сэрцы,
свядомасць сядзіць пры талерцы...
Усе вясновыя катаклізмы
адбіваюцца ў постмадэрнізмы.*

*Не хавайся ў густым алешніку,
лепей звіні на арэшніку
ўзімку, вясной і летам
перад бязмежным сусветам.*

*Не падпальвай вогнішча вершамі,
над полымем іх развешвай:
бо вершы — вёрсткія вельмі,
як каткі, залазяць на вербы.*

*Не зачыняць неба ў вачах,
добра гучаць пры свечках.
Не зацягваюць вершы ў адчай,
у адчай зацягвае рэчка.*

*Кожны верш, самы горшы,
падарыць табе можа грошык, —
няхай сабе коціцца па вярсце,
нібы пакаці-гарошак...*

*Няхай сабе дрэмле ў кішэні,
магчыма, твой лёс пераменіць.
Пераменіць твой лёс або не, —
верш анікога не абмане.*

### Зноў пра дожджык на досвітку

*Дожджык прыходзіць дахаты
на досвітку п'янаваты.
Вядзе яго п'яная хмарка, —
і пачынаецца сварка.*

*Лепш не чапай гэтай хмаркі —
па скуры пойдуць запаркі.
Не гладзь яе супраць поўсці,
хмарка ўмее помсціць.*

*І з дожджыкам марная спрэчка —
ён бывае злосны, як печка.
Уцякай ты ад іх, а наверсе
пасядзі сабе ды пагрэйся...*

### Марс і Венера

*Такія ўсяленскія дзеі,
і вынік іх вельмі мізэрны:
планета Марс халадзее,
а Венера гарачая вельмі.*

*Марс маленькім быў, не дарос,
закаціўся на крэйку нябёс,
здалёку холадам бліскае.
А Венера да сонца блізка.*

*Сонейка свеціць усім —
гарачым, халодным і злым,
гаючымі промнямі лашчыць
і тых, каго нават не бачыць...*

*Так думаю: а няўжо,
калі стану толькі душой,
буду лётаць з Венеры на Марс,
і забуду вясёлых вас...*



Фота pxhere.com

# Сустрэча з маладым чалавекам


Фрыдзеш КАРЫНТЫ

***Фрыдзеш Карынты (Frigyes Karinthy, 1887—1938) — вугорскі пісьменнік, гумарыст, перакладчык, эсперантыст.***

***Яму споўнілася 15, калі ілюстраваны часопіс у некалькіх нумарах запар апублікаваў яго першы раман «Вясельнае падарожжа праз цэнтр Зямлі». З 1906 года працаваў журналістам, друкаваўся амаль ва ўсіх будапешцкіх газетах і часопісах, у якіх па некалькі разоў на тыдзень выходзілі ягоныя апавяданні, пароды, гумарэскі. Шырока вядомым стаў пасля выхаду кнігі літаратурных карыкатур на творчасць шматлікіх вугорскіх і замежных пісьменнікаў «Вось як вы пішаце» (1912).***

***Сваім літаратурным настаўнікам ён лічыў Джонатана Свіфта, двум уласным раманам («Падарожжа ў Фарэмідо» і «Капілярыя») ён даў падзагалоўкі: «Пятае» і, адпаведна, «Шостае падарожжа Гулівера».***

***Прайшоў універсітэцкія курсы па розных дысцыплінах: у матэматыцы і фізіцы, філалогіі і хірургіі. Дыплома нідзе і ніколі не атрымаў, але з вялікай павагай і інтарэсам адносіўся да навукі ў цэлым, меў грунтоўныя веды ў розных сферах. «Вераў у моц інтэлекту, больш за тое, можна сказаць, ён слепа вераў, што слепата — з'ява часовая».***

***Яго знакаміты дэвіз: «У гумары я не прызнаю жартаў».***

***Шэсць гадоў узначальваў Вугорскі Саюз эсперантыстаў.***

***За два гады да смерці, у Стакгольме, яму ўдала выдалілі пухліну мозгу. Аперацыю, а таксама ўласныя адчуванні і думкі ў звязку з хваробай ён апісаў у выдатным рамане «Падарожжа вакол майго чэрапа».***

Я быў у добрым настроі, шмат пра што забыўся, цырымонна закурыў цыгару, і мы пайшлі праспектам Андрашы. З-пад вэлюма ўсміхалася мая мілая жонка-прыгажуня, мая дарагая абранніца, якая кахала мяне і дазваляла мне кахаць яе.

Маладога чалавека я сустрэў на беразе Дуная, гадзін каля шасці ўвечары. Ён прайшоў міма нас, ужо пачало пакрысе цямнець, і я не заўважыў яго. Ён быў ужо крокаў за дваццаць ад нас, калі я ўбачыў яго ззаду. Я раптам змоўк, разгубіўся — мяне ахапіў неспакой. Тонкая талія выразна вылучалася на фоне грузавога карабля, але, здаецца, я пазнаў яго па кроках. Вопратка крыху паношаная. У руцэ ён нёс сшытак вялікага фармату. Яму васямнаццаць, а можа, толькі сямнаццаць… я ўсё яшчэ вагаўся, не адважваўся павярнуць… я хацеў адвярнуцца, але раптам вострыя боль, як страла, працяў маё сэрца, яно закалацілася з такой сілай, што я быў вымушаны спыніцца. Я ўбачыў гэты рух, як ён падняў руку і выцягнуў яе перад сабой, ой, якой жудаснай была гэта рука, я пазнаў нават парэз на ёй, які ў спартзале…

Жонка глянула на мяне са здзіўленнем, а я, заікаючыся, сказаў:

— Калі ласка… пачакай мяне… мне трэба пагаварыць з гэтым маладым чалавекам…

Я пакінуў яе і паспяшаўся да яго. Але неўзабаве запаволіў крокі. Ужо змяркалася. Малады чалавек не павярнуўся. Ён ведаў, што я іду за ім. Ён няспешна ішоў далей і спыніўся спакойна ля каменя карабельнага прычала, павярнуўся тварам да ціхага Дуная і глядзеў праз супрацьлеглы бераг, далёка ў бок гор. Мне стала страшэнна няёмка, вымушаны быў адкашляцца. Я стаў побач, каб ён мяне заўважыў. Употай я зірнуў на яго рот, які яшчэ быў маладзейшы і вузейшы за мой. Вочы большыя і ярчэйшыя. О, гэта быў ён. І сшытак у руцэ, той стары сшытак… які я паклаў на дно шафы і забыўся… Гэта было цяжкае, трывожнае хваляванне.

— Ну… не бачыш мяне?.. — нарэшце ціха прамовіў я.

— Бачу, — сказаў ён, але не павярнуўся да мяне.

Я разгублена маўчаў. Мне стала сорамна. Смешна. Васямнаццацігадовы юнак! Сустрэча дзіўная, але я павінен знайсці выхад. Я буду непрадузятым. Няхай ён радуецца, што меў магчымасць убачыцца са мной.

— Я адразу пазнаў цябе, — сказаў я ўголас — як толькі ты прайшоў міма.

— Я ведаю — адказаў ён.

— Чаму тады ты не падышоў? Хіба я не цікавы табе?

Ён не адказаў. Я разнерваваўся.

— Добра, я ведаю, які ты стрыманы і ганарысты. Але, бачыш ты, гэта бессэнсоўна… Павер, я зразумеў, што бессэнсоўна… Я растлумачу табе гэта… Ты і сам зразумееш, што я не мог заставацца стрыманым і фанабэрыстым… Але чаму ты не глядзіш на мяне… Бачыш, у мяне вусы… Мне дваццаць шэсць… Які ж ты дзіўны. Злуешся на мяне?

Ён не адказваў. Толькі вусны горка сціснуліся.

— Ага!.. — сказаў я. — Выдатнае маўчанне! Добра, добра, памятаю ўжо… І што? Чалавек не можа рабіць гэта вечна. Вось як, ты мабыць яшчэ і папракаеш мяне? Ай, што ты, тваё вялікае маўчанне — зусім не вялікая справа… Не бачна, быццам гэта мела для цябе вялікую карысць… Твая вопратка зусім зношаная, мой мілы хлопчык. А сам ты худы. Выбачай, але я б так ніколі не апрануўся… Ну, што здарылася? Паплач трохі, атрымаеш капейчыну!

Ён упершыню паглядзеў на мяне. Жорстка паглядзеў мне ў вочы. Потым зноў адвярнуўся.

— Ты шмат гаворыш, — суха сказаў ён.

Мне стала крыўдна.

— Ах! Што ты! Ты ўяўляеш сябе вельмі дасканалым. Так, я гавару, бо хачу навучыць цябе… разумееш? Бо я старэйшы за цябе… і з таго часу многа чаго пабачыў… і перажыў… ты ж дзіця… што ты ведаеш?…

Раптам мой голас сціх, я апусціў галаву і ўсміхнуўся даволі ціха і разгублена, а потым ціха і нерашуча падняў руку і прашаптаў з недаўменнай усмешкай:

— …Дык што ж мне рабіць?.. ну не магчыма было рабіць так, як ты думаў. Павер, калі ласка, гэта было немагчыма… я спрабаваў… але гэта сапраўды было немагчыма…


Фота АА

Цяпер ён павярнуўся да мяне. Ён глядзеў на мяне са скрыўленым ротам, з нянавісцю.

— Дзе самалёт? — спытаў хрыпла.

Я нават заікаўся, калі прамовіў:

— Ну… што зробіш… вынайшлі… Фарман… браты Райт… мяне там не было… Але, павер, у іх таксама нядрэнна атрымалася… някепска, умоўна кажучы… на ім можна лётаць…

— Разумею, — насмешліва сказаў ён. Потым зноў паглядзеў на мяне. — А дзе Паўночны полюс?

Я апусціў вочы:

— Нейкі Роберт Піры дайшоў да яго… Ты павінен разумець, мне не хапіла часу… ты памыляўся… немагчыма усё адужаць… я ў той час вучыўся ва ўніверсітэце…

— Та-а-ак, — сказаў ён.

А потым:

— А дзе гордая і вольная Вугоршчына?

— Бачыш… дзіўны ты, надта… мы над гэтым працуем… я таксама… але гэта будзе не так хутка… а пакуль трэба і жыць.

Я пачаў тараторыць:

— Але ж бачыш… цалкам і я стараўся… зрабіць нешта… з таго, што абяцаў табе… я нават пісаў. Я напісаў даволі добрыя рэчы… Паглядзі, калі ласка, на вітрыны… маё імя вядомае… у мяне ёсць і аўтарытэт… як ты і хацеў… і людзі ўвогуле мяне паважаюць… І, бачыш, я нават кнігі напісаў… так ты і разлічваў… глядзі… вось… даволі добрая…

Я нервова выхапіў з кішэні адну са сваіх кніжак з гумарыстычнымі малюнкамі і апавяданнямі і паказаў яму.

— Глядзі… даволі ўдалая…

Ён толькі зірнуў на кнігу, але ў рукі не ўзяў.

— Так, я ўжо бачыў, — сказаў ён коратка. — Досыць добра.

Ён выцягнуў рукі ў бок гарызонту, які ўжо пачынаў цямнець, у напрамку гары, што выгіналася ўдалечы.

— Дзе вялікая сімфонія, жудасная п'еса пра шэры гарызонт і ганарыстых багоў, што дрыжаць і звіваюцца ў канвульсіях там, за гарызонтам?

Я пачырванеў.

— Ну, няўжо ты не разумееш… гэта немагчыма… гэтага нельга перадаць у трох дзеях… Ты памыліўся… Акцёр не можа сыграць ролю шэрага гарызонту… потым я зразумеў, што гэта нават не той жанр… і што бадай я нават не змог бы такую п'есу завяршыць… Аднак я напісаў пра гэта прыгожы санет… надрукаваны ў класным часопісе… ён спадабаўся чытачам… і з тых часоў мне плацяць больш…

Ён нічога не адказаў. Ён праваліўся ў панурае маўчанне, позірк яго губляўся ўдалечыні. Я хацеў яшчэ сказаць штосьці, растлумачыць, які ён малады… але цьмяна ўспомніў, што ў такія моманты, калі ён так глядзіць невядома куды, нельга яго турбаваць. Раптам я падумаў пра жонку і пачаў хваляваца.

— Калі ласка… — сказаў я, — хадзем са мной, я пазнаёмлю цябе са сваёй жонкай. Так, ты ж будзеш рады гэтаму. Вельмі прыгожая жанчына… цудоўная, вартая кабета… бачыш ты… і я яе пакарыў… яна кахае мяне… бачыш… я нехта… як ты хацеў…

Цяпер ён глядзеў на мяне з бясконцай насмешкай у вачах.

— Ты яе заваяваў, — сказаў ён. — Сапраўды? Як ты ганарышся гэтым! Ты пайшоў да яе і заваяваў! Замак з гары спусціўся, акружыў даліну і перамог!.. Дуб адолеў дрыгву, абвіў яе і любоўна абняў хмызняк… Чаму твая жонка не ідзе сюды?

Я прыжмурыў вочы.

— Ты дурны, — сказаў я. — Ты яшчэ дзіцё. Гэта фантасмагорыі. Ты памыляешся. Рацыю маю я. Я дарослы і спазнаў жыццё. Што ты ведаеш пра жыццё! Усе б з цябе смяяліся!

Ён стаў блізка побач са мной, глядзеў мне ў вочы. Я толькі цяпер убачыў яго густыя, каштанавыя валасы.

— Я не хацеў пазнаваць жыццё… Я хацеў, каб жыццё пазнала мяне… Праўда, усе б смяяліся з мяне, а ты не хацеў, каб з-за мяне смяяліся з цябе… Але ты ведаеш, глядзі мне ў вочы, май смеласць глядзець мне ў вочы!.. ты ж ведаеш, што смешным і маленькім з'яўляешся ты… і што я маю рацыю… і тое, што я кажу, зусім не смешна… ты ведаеш, што праўда на маім баку… ты, небарака… ты малы… ты ніхто… Май смеласць глядзець мне ў вочы…

Я быў вымушаны адвярнуцца; сітуацыя была дурная і надта няёмкая. Ён марудна адышоў, потым нават не глядзеў больш на мяне, пачаў павольна, аддаляцца прэч…

Я толькі праз некалькі хвілін змог ціха загаварыць:

— Ты куды пайшоў? Застанься… — прашаптаў я. Але ён так і не павярнуўся больш. Я толькі здалёк пачуў яго словы:

— Памятай, што апошні раз ты сустрэўся са мной… І калі ў цябе яшчэ захавалася нешта ад мяне, апусці сваё пяро ў агонь вячэрняй зары і напішы… напішы гэтую сустрэчу… і напішы, як я пакінуў цябе й як я знік, растаючы ў асмужаным небе, малады, прыгожы і бязмежна вольны, каб больш ніколі цябе не ўбачыць…

Усё гэта я чуў ужо вельмі здалёку, стройная постаць расплылася і паднялася. Я глядзеў яму ўслед, мне здавалася, што я бачу яго, але потым я зразумеў, што гэта было проста тонкае воблака, якое плыло ў чырвоным небе.

У жонкі лопнула цярпенне.

— Хто быў гэты малады чалавек? — спытала яна.

— Мой стары знаёмы, — разгублена сказаў я. — Добры хлопец…

— Так, — адказала жонка крыху рэзкавата. — Проста ў яго кепскія манеры. Чаму б яму не назваць сябе? Хаця ён надзвычай падобны да цябе.

Потым мы прыйшлі ў кавярню. Здранцвенне адпускала мяне павольна.

«А тэма дык файная — парадаваўся я. — Для верша гэта было б крыху зашмат. Але з гэтага можна зрабіць невялікі аповед. Коратка, сатырычна. Сёння акурат аўторак, я павінен што-небудзь здаць у рэдакцыю».

Я папрасіў аркуш паперы і, крыху павагаўшыся, запісаў назву: «Сустрэча з маладым чалавекам…»

А рана ўжо толькі тупа пабольвала.

*Пераклаў з вугорскай мовы*
*Пецэр БАРАС*

# «Нарабілася»:

## «Yesterday» Вінцэся МУДРОВА

Гэтая кніга — нібы працяг папярэдняй, — «Гарачага парафіну». Яднае кнігі і форма, і настрой, і асаблівая энергетыка. Зноў прыдзірлівы чытач і рэдактар укажуць на хаатычнасць размяшчэння апавяданняў, дзе за рэалізмам з ноткай Мудроўскага сарказму — раптоўны лірычны ўспамін юнацтва, а далей і амаль што казка з гераіняй-ластаўкай, ці амаль анекдот пра музыку, твор якога не прынялі жыхары вясковага двара, але калі зайграў ён знакамітае «Yesterday», то заслухаліся і кот з пеўнем, і сабака з гаспадыняй…

Паспрабую выказаць адну думку, якая, па мне, сталася ключавой у апошніх кнігах Вінцэся Мудрова.

Пачну з дыдактыкі. Той самай, якую лічаць вялікай заганай пры яе наяўнасці ў кнігах для дзяцей і юнацтва, калі яна да ўсяго яшчэ і нічым не прыхаваная, а выстрэльвае проста ў лоб апошнім сказам ці абзацам.

Але вось аб чым яшчэ падумалася: а помніце, пыталася нас настаўніца ў школе: «Дзеці, мы прачыталі з вамі апавяданне “Малыя дрывасекі”. Пра што вучыць нас гэты твор?»

Па сутнасці, тое апавяданне — адзін доўгі дыдактычны сказ (трошкі перабольшваю, вядома). Як і знакамітыя «Васількі» Міхася Лынькова. Як, зрэшты, ці не ўсё, што трапляе ў школьную праграму. Ды і агулам — што такое добрае апавяданне, лічым мы? Ды тое, у якім «мараль». Якое мо і не вучыць у лоб, але паказвае ці спрабуе даказаць мудрасць спрадвечных ісцін кшталту «не любі жонку бліжняга свайго». Даруйце тут маё ўтрыраванне, але давайце пагодзімся: сутнасць такая.

І нам была добра знаёмая і зразумелая менавіта гэткая літаратура. Бо ж ведалі мы, што чалавек — каваль свайго шчасця, што ён — прычына і наступства. Зрэшты, так для нас і пісалі.

…Помніце, ёсць такая казка, ёсць і песенка, якую спяваў Уцёсаў — як гаспадару аднае сядзібы расказвалі пра нечаканую смерць старога сабакі. Чаму здох? Ды мяса аб’еўся. Якога мяса? Бо конь прапаў. Як прапаў? Ды зашмат вады вазілі… Сітуацыя, калі адна бяда чэпіцца за другую, і далей, і далей. Некалі мая мама сказала б на такую сітуацыю: «Нарабілася».




Узяло — і нарабілася. Калі няма сэнсу шукаць прычыну і лавіць вінаватых. Бо — нарабілася. Заўважу, што да шмат якіх бедаў і здарэнняў даводзілася ў маленстве чуць менавіта гэты безасобавы дзеяслоў.

Дык вось…

«Нарабілася». Дзе не чалавек рушыць дзею, няхай сабе ён і надзвычай актыўны ў пэўнай сітуацыі. Дзея рушыцца сама па сабе. Збег абставінаў і акалічнасцяў. Ці то гэта маладзён спрабуе уварваць адзін пацалунак і ў выніку валіць долу кабіну для галасавання (а далей — арышт і свеціць крымінальная справа), ці п’яніца-літаратар са сваімі прыгодамі. Па сутнасці, усе апавяданні Мудрова — гэта менавіта «нарабілася».

І ад гэтага ў творах знікае самая мінімальная дыдактыка. Героі кнігі не збіраюцца нікога нічому вучыць — ні сваім розумам, ні адвагай, ні дурасцю. Яны — паза прычынамі.

Узнікае асаблівае стаўленне да кнігі і самога аўтара, які цалкам адасоблены як ад цябе, чытача, так і ад сваіх твораў. Наўрад ці цікава яму, што ты падумаеш пра таго падлетка-вяскоўца, які выявіўся не проста баязліўцам, але і подлым. (Праўда ж, нечаканы дысананс: сярод гарадскіх вясковы хлапчук мусіў, па правілах нашай жа беларускай літаратуры, быць кемлівым, асцярожным, разумным ды адважным.)

Вінцэсю Мудрову важна было зафіксаваць падзею. Ці невялікі ўспамін. Ці прыдумку-фантазію.

Але навошта такім чынам?

Бо «нарабілася» — гэта пра само жыццё. Мабыць жа, і пра адзін з галоўных прынцыпаў існавання існага: усё, што адбываецца, — нейтральнае па сваёй сутнасці. Ні добрае, ні злое, ні чорнае, ні белае. Гэта толькі нашыя адносіны да пэўнай дзеі надаюць ёй якасныя характарыстыкі, адрозныя ад першапачатковай. Згадаем прыроду: што аднаму смертухна, іншаму — жыццё.

Па вялікім рахунку, скажу так: гэта кніга пра марнасць чалавечых высілкаў і ўсякіх намаганняў хоць неяк зрушыць у свеце баланс дабра і зла, святла і цемры. Няхай нешта нейкае быццам і атрымліваецца, але тое — хімера і мроіва. Бо сам гэты падзел прыдуманы намі, ён сам — мроіва, і ў кожнага, урэшце, ён свой. Магчыма, надарыцца нейкі адзіны момант, каб у галовах самых упартых вернікаў у рух людскога племені да святла заззяў агеньчык надзеі. А яны, вернікі, самі такі момант адшукаюць дзеля ўмацавання сваёй няўхільнай веры ў дабрыню людскую і прагрэс чалавецтва.

Не ведаю, ці мудрыў Мудроў з размяшчэннем сваіх апавяданняў у кнізе, але вось з такой пазіцыі яны размяшчаюцца цалкам апраўдана. Бо якая б дзея ні адбылася і калі б ні адбылася, яна, дзея, можа з лёгкасцю змяніць свой час і месца — хоць з мінулага сюды, хоць цяперашняе — туды, у мінулае. Трошачкі хіба падфарбуем атрыбутыку.

Бо людзі не змяніліся. Гэта другая, ускосная думка, пасля прачытання кнігі. Але першая, якая прынесла мне напамін пра маці, застаецца галоўнай: «Нарабілася».

І нешта мне падумалася яшчэ, што ў нашай літаратуры, пра беларускую кажу, нямала такіх твораў, і ёсць яшчэ добрыя аўтары з добрымі апавяданнямі, дзе гэтае «нарабілася» гучыць ціхім мудрым шэптам. Ды ж нашае школьнае выхаванне і метадычкі вучаць абавязкова шукаць адказ на пытанне: «Чаму вучыць нас гэты твор?».

А калі нічому? Як мне, дык і дзякуй. Калі некаму прыходзіць час пісаць такія творы, іншаму — час такія чытаць.

# Дэманы і людзі:

## «Скрадальнік лекаў» Гагар ЯНАЙ (у перакладзе Паўла КАСЦЮКЕВІЧА)

Найбольш аб’ектыўнае ўражанне ад невядомай кнігі будзе тады, калі ты нічога не ведаеш пра аўтара і ягонае імя табе нічога не кажа. Таму, разгарнуўшы тэкст, я не палез у Вікіпедыю. Пачытаў.

І зразумеў, што я зайздрошчу аўтару. Гэта адна з тых нешматлікіх кніг, якія б хацеў напісаць я сам.

Пра гэтую кнігу казаць можна многа, але я пастараюся быць максімальна нешматслоўным, выкладу свае ўражанні тэзісна.

Дагэтуль у мяне было досыць павярхоўнае знаёмства з шумерскай (месапатамскай) і яўрэйскай міфалогіямі. І перада мной літаральна раскрылася бездань свету, раней не бачанага, народжанага ў калысцы цывілізацыі. Гэта першае, што б я хацеў адзначыць: высокапрафесійнае майстэрства аўтаркі — Гагар Янай — у яе паглыбленні, адраджэнні і інтэрпрэтацыі адных з самых старажытных міфалогій, злучэнне ў адну сістэму і ажыўленне гэтай сістэмы.

Другое: тое ж майстэрства па злучэнні паралельнага фэнтэзійнага сусвету з нашым часам. Неверагодныя паралелі.

Трэцяе: абсалютна ўнікальныя прыгоды, падзеі і абставіны. Далібог, тут сапраўды цалкам новы сусвет, пры чытанні аб прыгодах у якім брата і сястры, іх сяброў маёй увагі не парушыў ні адзін флэшбэк. Хіба што адзінае: пераапрананне дзяўчыны ў юнака, каб удзельнічаць у ваенных дзеяннях, але гэта аніяк не запазычанне, бо ёсць досыць пашыраным сюжэтам у фальклоры многіх краін свету. Тут абсалютна новыя героі, яны маюць свае ўнікальныя ўласцівасці і жывуць ва ўмовах незвычайных. Іначай кажучы, пра такое нідзе не пісалася, не паказвалася, не гаварылася.

Чацвёртае. Мова. Перакладчык Павал Касцюкевіч імкнуўся да максімальнага захавання не проста стылю аўтаркі, але пэўнай атмасферы, настрою і меладычнасці кнігі. Пры ўсёй сур’ёзнасці тэксту мова гучыць вельмі аптымістычна, нават недзе весела, тут шмат іроніі, яўрэйскага гумару (у кнізе ён будзе зразумелы бадай кожнаму чытачу). У некаторых месцах немагчыма не ўсміхнуцца, недзе і зарагатаць можна, калі вы можаце смяяцца ў адзіноце. Ёсць у тэксце своеасаблівы юнацкі запал, лёгкая бадзёрасць.

Пятае. Жывыя персанажы. Нават героі «задняга плану», што людзі, што дэманы, маюць свае характары, у іх выпукла праступае індывідуальнасць, прыадчыняецца багаты ўнутраны свет. Яны ўсе розныя, цікавыя, з многімі з іх сумна расставацца, хоць разумееш, што іх роля ў гісторыі эпізадычная.

Шостае. Аўтарка стварыла надзвычай складаны сусвет, унутраныя законы яго вельмі няпростыя — і простыя адначасова. Для неперабарлівага чытача, які не будзе імкнуцца да глыбокага спасціжэння ісцін, дастаткова таго, што напісана, іншыя ж, мяркую, задумаюцца над філасофіяй жыцця розных слаёў насельніцтва, сацыяльных груп. І гэтая філасофія розная і цікавая.




Вельмі важным для мяне падалося тое, што аўтарка неназойліва падкрэслівае: наша чалавечая логіка спасціжэння дабра і зла не мае ніякага дачынення да дэманаў сярэдняй рукі і, тым больш, не можа быць прыменена да паводзінаў вышэйшых дэманаў. Чым адзначаючы: мараль створана людзьмі, а стваральнікі сусвету і саміх людзей маюць сваю, непадуладную нашаму разуменню, логіку і філасофію свайго быцця.

Сёмае. Гэта проста цікава. Займальна. Захапляльна. Нова і незвычайна.

Пасля гэтага ўсяго я магу вам сказаць колькі слоў пра аўтарку, пагугліўшы. За першую кнігу «Выкрадальнік лекаў» трылогіі «Левіятан з Вавілоніі» Гагар Янай атрымала прэмію Гэффэна, за другую кнігу трылогіі «Вада між сусветамі» — зноў прэмія Гэффэна, трэцця кніга «У бездань» — тая ж прэмія плюс прэмія Дворы Омэр. У тым ліку і за гэтыя кнігі Гагар Янай была ўзнагароджана прэміяй прэм’ер-міністра Ізраіля.

Вось такая жанчына, вось такая краіна, вось такая ўвага да пісьменнікаў.

І вось такую кнігу мы маем, дзякуючы выдавецтву «Логвінаў» і перакладчыку Паўлу Касцюкевічу.

Маем першую частку, фінал якой хоць быццам і закрыты, але абяцае працяг. Вельмі б хацелася пачытаць другую і трэцюю частку трылогіі — і пачытаць на нашай мове.

***В. Г., bellit.store***

# Яніна ГРЫНЕВІЧ:

## «Як нацыя вучылася спяваць»

Манаграфія прысвечана збіральніку і першаму папулярызатару нашых народных спеваў — Антону Грыневічу.

Абапіраючыся на працы папярэднікаў, даследчыца песеннай культуры Яніна Грыневіч абагульніла звесткі пра нястомнага збіральніка фальклору, а таксама падзялілася ўласнымі архіўнымі росшукамі, аздабляючы багатай гістарычнай фактурай яго біяграфію.

Выхадзец з беззямельнай збяднелай шляхты Антон Грыневіч нарадзіўся 3 мая 1877 года, скончыў Дзісенскае гарадское вучылішча і з 19 гадоў жыў у Санкт-Пецярбургу, дзе працаваў на розных пасадах чыноўнікам. Дзейнасць збіральніка-фальклярыста распачынае ўжо ў 1906 годзе…

Антон Грыневіч паступова распрацоўвае і ўдасканальвае методыку збору і апісання песень. Фіксуе словы і мелодыі, спрабуе вышукаць найбольш старажытныя матывы. З гэтай прычыны асаблівую ўвагу надзяляе непісьменным спявачкам, якія ніколі не выбіраліся ў горад.

У кнізе асабліва падкрэсліваецца наватарства Антона Грыневіча ў справе папулярызацыі беларускай песні. Ён шчыра лічыў, што народны спеў павінен адыграць вялікую ролю ў выхаванні моладзі, а таксама ўвогуле беларусаў, у тым ліку праз народны тэатр, які ў тую пару нельга было ўявіць без танцаў і хору. Пачынае рыхтаваць дапаможныя матэрыялы…

У кнізе прадстаўлена не сухая біяграфія, хаця Яніна Грыневіч абапіраецца на шматлікія дакументы і тагачасныя публікацыі, а жывы паслядоўны расповед, які раскрывае панараму беларускага адраджэння пачатку XX стагоддзя, а таксама дзейнасць першых беларускіх навуковых інстытуцый пасля ўсталявання савецкай улады.

Стракатая геаграфія, шматлікія паплечнікі і спадарожнікі, лёс самога Антона Грыневіча, які ва ўсёй гэтай каламесе рэвалюцый, войнаў і палітычнага пераследу працягваў сваю справу.

Добрай ілюстрацыяй гэтай «несупыннасці» з’яўляецца запіс, які збіральнік зрабіў у Лукішках, калі быў арыштаваны польскай дэфензівай: «Дзе ты быў, дзядулька мой, дзе ты быў, міленькі мой, // На кірмашы, бабка, на кірмашы, любка, на кірмашы, сівая галубка…».




Акрамя непасрэдна самой манаграфіі, у кнізе прадстаўлены факсіміле выданняў: «Bielaruskije piesni z notami» (1910), «Bielaruskije piesni z notami» (1912), «Народны сьпеўнік: на 1—3 галасы» (1920), «Школьны сьпеўнік» (1920), «Беларускі дзіцячы сьпеўнік з беларускіх народных матываў і лірыкі, сабраных ў 1905—1924 гг.» (1925), брашура па выхаванні «Як трымацца змалку» (1920), падборка сабраных песень, у тым ліку ад знакамітых дзеячаў беларускай культуры.

Дзеля навучання беларусаў музычнай справе па-беларуску Антон Грыневіч распрацаваў уласную музычную тэрміналогію: «нотная драбінка» (аналаг нотных лінеек), «адступы» (інтэрвалы), «звышок» (дыез), «зніжок» (бемоль), «зваротнік» (бекар), «пераважка» (сінкопа), «лучка» (ліга), «тонаход» (гама), «клінчык» (легата), «моцка» (акцэнт) і г. д., якія павінны былі спрасціць разуменне нотнай граматы для дзетак і малапісьменных аматараў спеваў, бо чужаземныя словы «мучылі памяць і туманілі разуменне». У той жа час падкрэсліваў важнасць вывучэння ўніверсальных італьянскіх абазначэнняў, «каб магчы карыстаць нотамі ўсяго сьвету».

Кніга «Як нацыя вучылася спяваць…» прысвечана памяці настаўніка Яніны Грыневіч — Арсеня Ліса. Падаецца, што ён быў бы ўсцешаны, прачытаўшы працу сваёй вучаніцы.

***Міхал БАРАНОЎСКІ***

# «Генерал пясчаных кар’ераў»: Жоржы АМАДУ



Андрэй ЦУНСКІ

***«Калі ўсе дружным хорам кажуць “так”, я кажу — “не”. Такім ужо ўрадзіўся». «Я — проста пісьменнік, проста асоба. Няўжо гэтага мала? Я быў і застаюся жыхаром беднага горада Баія (на “бразільскай” партугальскай — Bahía. — Рэд.), жыхаром, які бясклапотна блукае па вуліцах і ўзіраецца па баках, менавіта ў гэтым бачачы мэту і сэнс свайго быцця. Лёс быў да мяне прыхільны і даў шмат больш за тое, на што я мог разлічваць і спадзявацца», — прызнаваўся Жоржы Амаду (Jorge Leal Amado de Faria, 1912—2001)…***

## Калі няма лі́тарніка (буквара)

Чытаць вучыла яго маці — па газетах. А чытаючы газеты, міжволі даведаешся, дзе і што адбываецца і хто чаго дамагаецца. Ды і ці праўду там пішуць, асабліва калі ў спрэчцы з-за кавалка зямлі да бацькі аднойчы падаслалі наёмных забойцаў, і бацька быў паранены і цудам застаўся жывы, а ля ложкаў на ўсякі выпадак ставілі стрэльбы…

Будучы пісьменнік быў першым дзіцем у сям’і палкоўніка Жуана Амаду ды Фарыі і Эўлаліі Леал. Муж і жонка валодалі цалкам прыбытковай і немаленькай плантацыяй какавы, таму бацьку пісьменніка і звалі «палкоўнікам»: у выпадку чаго яму было за што пастаяць са зброяй у руках. І у Баіі, і ў Рыа ў сям’і было па двухпавярховым асабняку ў каланіяльным стылі, і хлопчыку была забяспечана нябедная будучыня пад надзейнай ахOвай дома…

Але яго з дзяцінства цягнула да вулічнай шпаны. Жах бацькоў лёгка сабе ўявіць. А сам Амаду лічыў, што яму моцна пашанцавала — бо ён апынуўся з дзяцінства ў самай гушчы бразільскага фальклору, які ўяўляў сабою сплаў народнай творчасці і эпічнага погляду на свет трох кантынентаў: Еўропы, Паўднёвай Амерыкі і Афрыкі. Амаду пісаў, што нарадзіўся ў «найважнейшым негрыцянскім цэнтры Бразіліі, дзе вельмі глыбокія традыцыі афрыканскага паходжання». Тут жыве цэлая сям’я старажытных афрыканскіх боствау, нігерыйскіх, ангольскіх: Агун, Шанга, Эшу, Еманжы, часта сустракаемых і на старонках раманаў пісьменніка. Сам Жоржы Амаду прызнаваўся пасля: «Мы, баіянцы, — сумесь анголцаў з партугальцамі, у нас пароўну ад тых і іншых…»

## Як баіянскія жабракі перамаглі ўніверсітэт

У школе ёсць бібліятэка, і можна зачытвацца Свіфтам і Дзікенсам. Але няўжо змогуць доўга пратрымацца даўно памерлыя ангельцы супраць апоВедаў сялян, маракоў, бадзягаў? У 12 гадоў, «каб наведаць дзядулю», Жоржы збег з каталіцкай школы, куды яго вызначылі, і два месяцы папросту бадзяжнічаў. Бацька́м у 1930 годзе ўдаецца прымусіць сына паступіць ва ўніверсітэт, і далей ад мясцовых жабракоў, у Рыа-дэ-Жанэйра! Ужо там яго навучаць, і факультэт патрэбен строгі — юрыдычны. Юрыст — гэта самавіта. Але кумір Жоржы — паэт Рауль Боп, які не хаваў сваіх левых поглядаў. А яшчэ — ён з захапленнем глядзіць на Жосэ Амерыка дэ Алмэйду, які актыўна змагаецца за дэмакратыю, балатуецца ў прэзідэнты, прагне справядлівасці!

Амаду не толькі вучыцца (шчыра скажам — не столькі вучыцца), ён падарожнічае па Бразіліі і па ўсёй Паўднёвай Амерыцы, яму ненавісныя расізм і няроўнасць, якія ён сустракае ўсюды. Ён любіць простых людзей, якія часта дзеляцца з ім і дзіравым дахам, і апошнім кавалкам. Але ненавісныя яму бразільскі мешчанін, чыноўнік, гандляр — дзіўна, наколькі глыбока і дакладна разбіраецца ў людзям пісьменнік, — ды яшчэ і не пісьменнік, а проста дваццацігадовы хлопец (будзем лічыць — студэнт), якога вучылі чытаць па газеце. «Гады малалецтва, праведзеныя ў Баіі: на вуліцах, у порце, на рынках і кірмашах, на народным свяце або на спаборніцтве ў капаэйры, на магічным кандамблі або на дзядзінцы стогадовых цэркваў, — вось мой лепшы ўніверсітэт», — сведчыў сам Амаду.

## СССР цікавіцца бразільскай культурай

У той час у былым СССР ведалі аб Бразіліі не больш, чым у Бразіліі аб СССР. Але знайшліся энтузіясты, такія, як Д. І. Выгодскі (1893—1943), літаратуразнаўца-іспаніст, перакладчык, які нарадзіўся ў Гомелі і які быў аўтарам артыкула «Бразільская літаратура» для першага выдання «Вялікай савецкай энцыклапедыі». Д. Выгодскі праз газеты і часопісы звяртаўся да паэтаў і празаікаў Лацінскай Амерыкі з просьбай дасылаць яму свае творы. Так, у 1933 годзе ў 10-м нумары часопіса «Красная новь» у перакладзе Д. Выгодскага быў апублікаваны антыкампрадорскі, «люты» верш «Статак» надзвычай папулярнага ў Бразіліі паэта Марыу дэ Андрады.

Цікавасць да левых рухаў Паўднёвай Амерыкі ў СССР разрасталася. А ў Бразіліі тым часам (у 1932 годзе) наш герой Жоржы Амаду паспеў уступіць у камуністычную партыю і ў тым жа годзе вылецець з універсітэта, паспеў папрацаваць адвакатам, пасварыцца з сям’ёй, але галоўнае было не гэта. У 1931-м публікуецца яго першы раман «Краіна карнавалу», потым, у 1933-м, — «Какао», у 1934-м — «Пот» і ў 1935-м — «Жубіяба». У рамане «Пот» галоўны герой, механік Алвар Ліма, які міжволі ўзначаліў стыхійнае ячэйку рабочых, жыве ў таннай гасцініцы на «Адкосе Ганебнага слупа» (дзе калісьці секлі да паўсмерці неграў-рабоў). Гэта не выпадкова: некаторы час на «Адкосе Ганебнага слупа» жыў і сам Амаду, прама на тэрасе пад дахам…

Раман выйшаў у СССР у 1934 годзе ў чэрвеньскім нумары часопіса «Интернациональная литература». Амаду будуць перакладаць у СССР увесь час, і ён не раз прыязджацьме туды.



Жоржы АМАДУ

Фота Reprodução

## Амаду супраць «новай дзяржавы Бразілія»

Але спачатку ён у 1936 годзе знаходзіцца ў турме: «Нацызм падаўляў свабоду, растоптваліся правы чалавека. У Бразіліі пачаўся працэс ліквідацыі дэмакратыі, які прывёў да бяздольных гадоў “Новай дзяржавы”. З многімі я апынуўся ў турме Цэнтральнага ўпраўлення паліцыі».

Дыктатар Жэтуліу Варгас забараніў палітычныя партыі, любая грамадская дзейнасць спынялася, і цудам вырваўшыся на волю, Жоржы Амаду стаў матросам на кабатажным судзенку, якое хадзіла ўздоўж узбярэжжа да Мексікі і ЗША. Менавіта там, на борце, ён напісаў раман «Капітаны пяску». Напэўна, хто не ведае пісьменніка, не чытаў гэтага рамана і не глядзеў яго некалі звышпапулярнай экранізацыі «Генералы пясчаных кар’ераў», абавязкова чулі песню з гэтага фільма (яе пазней агучыў Аляксей Кортнеў і група «Несчастный случай»):

*Я начал жизнь в трущобах*
*городских,*
*И добрых слов я не слыхал.*
*Когда ласкали вы детей своих,*
*Я есть просил, я замерзал…*

Цікава, што рускамоўны тэкст Навума Олева не мае нічога агульнага з арыгінальным партугальскім тэкстам, які гучыць у фільме! Але цяпер нам практычна немагчыма гэта ўявіць — настолькі арганічна лёг гэты тэкст на мелодыю Дорывала Каімі, — таксама ўраджэнца Баіі, між іншым…

Пра тое кабатажнае плаванне пісьменніка мы яшчэ прачытаем не адну старонку, а пакуль, у 1942 годзе, Амаду вярнуўся ў Бразілію і зноў апынуўся ў турме. Пасля яго адправілі пад хатні арышт у Баію, забаранілі літаратурную дзейнасць. Але — не журналісцкую!

Адносіны паміж Бразіліяй і нацысцкай Германіяй не выбудаваліся, і Амаду працаваў у антыфашысцкай газеце «У Імпарсіял». Да гэтага моманту ў яго біяграфіі ўжо з лішкам хапіла б літаратурнага матэрыялу да канца жыцця. Але ўсё самае выдатнае яшчэ не напісана, і вялізнае асабістае шчасце — хоць толькі што ён перажыў развод — яшчэ наперадзе!

## Цуд на літаратурным кангрэсе

Вось-вось будзе зрынуты Гітлер, папрыціхлі (на час) ультраправыя ў Паўднёвай Амерыцы. У студзені 1945 года збіраецца Першы кангрэс пісьменнікаў Бразіліі. Жоржы Амаду надзвычай папулярны не толькі сярод чытачоў, але і сярод… жанчын. Сябры нават далі яму мянушку «Распуцін»: якая красуня на пляжах Баіі адмовіць яму? Ох, добра ведаў Жоржы Амаду, пра што пісаў у сваіх пачуццёвых раманах! І раптам… прама на кангрэсе ён спыняецца, як громам працяты: такую ён бачыць жанчыну! Яе завуць Зелія Гаттаі. Ужо ў ліпені дона Зелія пасяляецца ў доме Жоржы Амаду — і застанецца там назаўсёды. У іх нараджаюцца двое дзяцей: у 1947 годзе — сын Жуан, у 1951-м — дачка Палома. Разам з Зеліяй, менавіта разам з ёй прыходзіць у творчасць пісьменніка казка, мяняецца яго паэтыка, і яго творы будуць часта адносіць да «магічнага рэалізму». Хоць не бывае літаратуры без магіі, ды і «вызначыць — значыць абмяжаваць», сказана іншым мудрым чалавекам.



Жоржы АМАДУ і яго жонка Зелія Гатаі

## Як амерыканскі імперыялізм дапамог пісьменніку пабудаваць дом

У 1946 годзе Амаду атрымаў мандат у бразільскім парламенце, дзе прадстаўляў фракцыю камуністаў. Ён бярэцца за абарону нацыянальнай культуры. А яшчэ змагаецца за свабоду сумлення і веравызнання, і галоўнае яго дасягненне — яму ўдаецца легалізаваць негрыцянскі культ кандамблэ. Але да ўлады, пры адкрытай дапамозе ЗША, прыходзіць генерал Эўрыку Дутра, чалавек фашысцкіх перакананняў. Пісьменнік зноў павінен уцякаць з роднага дома. Потым ён горка іранізаваў у сваёй кнізе «Кабатажнае плаванне», што ўсё жыццё змагаўся з амерыканскім імперыялізмам, але ўласны дом у Баіі і адносны дабрабыт забяспечылі яму менавіта амерыканскія, «галівудскія даляры», атрыманыя за экранізацыю яго кніг. Атрыманая ім у 1951 годзе Міжнародная Сталінская прэмія «За ўмацаванне міру паміж народамі» — 25 тысяч даляраў, вялізная на той час сума, — пайшла на выданне збору твораў Леніна на партугальскай мове. А за легалізацыю кандамблэ ён, з падачы прагрэсіўных французскіх пісьменнікаў, стаў… кавалерам ордэна Ганаровага легіёна.

Пасля паездкі па Савецкім Саюзе ён напісаў кнігу «Свет, дзе пануе мір»; цікавасць да СССР была велізарная — толькі ў Бразіліі кніга вытрымала пяць выданняў за тры гады! Але за яе ж Амаду неадкладна прыцягнулі да суда па «законе аб бяспецы дзяржавы». Аднак кнігу прачытаў разумны і ўжо сапраўды дасціпны чалавек — суддзя. Суд пастанавіў, што кніга аднosіцца не да падрыўных, а ўсяго толькі да «сектанцкіх»: і аўтара нельга пераследаваць на падставе закона, аўтарам якога быў… менавіта!.. сам Жоржы Амаду!

## Пра дружбу і камунізм

З 1948-га па 1967-ы гады Амаду пабываў у СССР цэлых 12 разоў. А пасля 1967-га прыязджаў толькі аднойчы — у 1989-м. Пасля 1967 года Амаду адышоў ад палітычнай дзейнасці. Ён ужо ведаў, што рай на зямлі ў Краіне Саветаў калі і пабудавалі, то далёка не для ўсіх, і ведаў — якім коштам. Яго ўгаворвалі, спрабавалі ўздзейнічаць праз бразільскіх камуністаў. Жонка старшыні Камуністычнай партыі Бразіліі Марыя Прэст успамінала, як Амаду растлумачыў сваё рашэнне ў трох словах: «Дайце мне пісаць».

## Як знаёмыя Амаду траплялі ў гісторыю

У 1956 годзе Жоржы Амаду вярнуўся ў Бразілію ўжо назаўсёды — больш яму не даводзілася ўцякаць з роднага Баіі. Побач было каханне яго жыцця — Зелія. А ў порце яго ведаў кожны! Цяпер ён толькі піша — але як! У 1958 годзе выходзіць раман «Габрыэла, карыца і гваздзік», а затым кожны раман — гэта вялізны крок у неўміручасць і адначасова — магутны ўклад у культуру Бразіліі. 1964-ы год пазначаны «Пастырамі ночы», 1966-ы — раманам «Дона Флор і два яе мужы», а 1972-ы — кнігай «Тэрэза Батыста, якая стамілася ваяваць». І хоць кожны твор яго амаль казка — у адным рамане «Дона Флор і два яе мужы» з 304 персанажаў выведзены 137 жывых на той момант, сапраўдных жыхароў Баіі пад сваімі імёнамі…

## Дрэва жыцця Амаду

Калі надышоў «адносны дабрабыт», муж і жонка купілі маленькі дамок на беразе мора, там, дзе стаяў маяк. Да горада 30 кіламетраў, няма тэлефона — гэта было неабходнай умовай, бо чалавека, якога ў Бразіліі звалі «літаратурным Пеле» нават пасля смерці, а праспект у горадзе назвалі яго імем яшчэ пры жыцці, увесь час дапякалі журналісты і проста цікаўныя. Сюды маглі прыйсці толькі самыя блізкія, некаторыя з якіх апісаны ў кнігах пісьменніка…

У дворыку было дрэва, пад якім разам любілі піць матэ. Зелія пахавала Жоржы, паводле яганага запавету, пад гэтым вялікім дрэвам у садзе каля іх дома — каб дапамагаць гэтаму дрэву расці і нават пасля смерці прыносіць у жыццё яшчэ больш жыцця…

Можа быць, ён і сам — хрэснік ці іншая радня Агуна? А калі вы не ведаеце, хто такі Агун ці Эшу, ці як п’юць кашасу, ці ядуць макеку, чытайце Жоржы Амаду. У свеце прададзена 80 мільёнаў экзэмпляраў яго кніг. Знайсці будзе няцяжка.

## Міжнародная Букераўка

Чытачы, як і літаратары, найчасцей ведаюць пра самі літаратурныя прэміі, а вось пра «суддзяў», членаў журы, — наўрад ці...



Нядаўна стаў вядомы склад журы Міжнароднай Букераўскай прэміі 2025 года, у яго ўвайшлі 5 чалавек (апублікаваны на сайце прэміі). Імі сталі: Макс Портэр — брытанскі пісьменнік, былы кнігагандляр і рэдактар, аўтар кніг «Гора — пёры» (2015), «Лэні» (2019), «Смерць Фрэнсіса Бэкана» (2021) і інш.; Калеб Фэмі — нігерыйска-брытанскі паэт, фатограф і рэжысёр, лаўрэат прэміі «Forward Prize for Poetry» за дэбютны паэтычны зборнік «Poor» (2020); Сана Гоял — пісьменніца і рэдактарка брытанскага літаратурнага часопіса «Wasafiri», які выходзіць ужо 40 гадоў, аўтарка артыкулаў для «Birmingham Literary Journal», «The Guardian», «Financial Times», «Times Literary» і іншых выданняў; Антон Гур — пісьменнік і перакладчык з карэйскай мовы, аўтар кніг «Да вечнасці» і «Ніхто мне не казаў» (яго пераклад «Праклятага зайца» паўднёвакарэйскай пісьменніцы Боры Чанг быў у шорт-лісце Міжнароднай Букераўскай прэміі 2022 года); Бэт Ортан — аўтарка песняў, лаўрэатка прэміі «BRIT».

Лонг-ліст узнагародаў будзе абвешчаны ў лютым 2025 года.

Букераўская прэмія — адна з самых прэстыжных літаратурных узнагарод у англамоўным свеце і свеце ўвогуле. Першая прэзентацыя адбылася ў 1969 годзе. На Букераўскую прэмію мастацкай літаратуры могуць прэтэндаваць творы пісьменнікаў любой нацыянальнасці, напісаныя на англійскай мове і выдадзеныя ў Вялікабрытаніі ці Ірландыі.

Міжнародная Букераўская прэмія была заснавана ў 2005 годзе і ўручалася кожныя два гады да 2015-га. З 2016 года прэмія прысуджаецца штогод выключна за літаратурныя творы, перакладзеныя на англійскую мову. Прэмія можа быць прысуджана як англамоўным пісьменніку/-цы, так і аўтарам, чые творы перакладзены на англійскую мову. Прэмію 2024 года атрымала нямецкая пісьменніца Эні Эрпэнбэк за кнігу «Кайрас» у перакладзе Міхаэля Хофмана.

## 100 лепшых кніг паводле «The New York»

Выданне «The New York Times Book Review» вырашыла адзначыць першыя 25 гадоў гэтага стагоддзя амбіцыйным праектам: зрабіць першы крок у вызначэнні найважнейшых і ўплывовых кніг эпохі. Супрацоўнікі газеты разаслалі апытанне сотням аўтараў, крытыкаў і кнігалюбаў, папрасіўшы іх назваць 10 найлепшых кніг, выдадзеных з 1 студзеня 2000 года. У выніку ў складанні топ-100 лепшых кніг XXI стагоддзя ўдзел прынялі 503 чалавекі, сярод якіх Стывен Кінг, Джэймс Патэрсан, Сара Джэсіка Паркер, Карл Увэ Кнаўсгор, Марлон Джэймс і іншыя. «Мы спадзяемся, што вы адкрыеце для сябе кнігу, якую заўсёды хацелі прачытаць, ці сустрэнеце сваю самую любімую кнігу, якую захочаце ўзяць у рукі зноў. Перш за ўсё, мы спадзяемся, што вы таксама натхнёныя і аслепленыя, як і мы, шырынёй тэм, галасоў, меркаванняў, вопыту і ўяўлення, прадстаўленых тут», — пракаментавалі ў выданні.




Топ-100 па версіі «The New York Times» узначаліла кніга Элены Ферантэ «Мая геніяльная сяброўка». У дзясятку таксама ўвайшлі «Цяпло іншых сонцаў: эпічная гісторыя Вялікага перасялення Амерыкі» Ізабэль Вілкерсан, «Ваўчыная зала» Хілары Мантэл, «Вядомы свет» Эдварда Пола Джонса, «Папраўкі» Джонатана Франзена, «2666» Раберта Баланьё, «Падземная чыгунка» Колсана Уайтхеда, «Аўстэрліц» Вінфрыда Георга Зэбальда, «Не адпускай мяне» Кадзуо Ісігура і «Галаад» Мэрылін Робінсан.

На 72 месцы можна знайсці кнігу Святланы Алексіевіч «Час сэканд хэнд».

## Усеўкраінскія літрэкорды

Міжрэгіянальнай акадэміяй кіравання Украіны зафіксаваны два ўсеўкраінскія літаратурныя рэкорды — па найбольшай колькасці аўтараў і старонак твора.

Раман «Басорка», напісаны ў найноўшым жанры «калектыўны літаратурны пэчворк», быў прызнаны Нацыянальным рэестрам рэкордаў Украіны. Раман адзначаны паводле двух рэкордаў: «Самая вялікая група аўтараў электронных кніг» (іх... 228 (!), пераважна жанчыны) і «Самая вялікая колькасць старонак электронных кніг» (2833). Наконт вылучэння твора на сусветны рэкорд таксама ідзе дыскусія на ўзроўні экспертаў.

Для напісання «Басоркі» сабраліся аўтары ў асноўным з Букнэта і з іншых рэсурсаў і пачалі пісаць калектыўны твор пра карпацкую вядзьмарку-чараўніцу (нячыстую сілу, міфалагічную істоту), якая можа дапамагчы, а можа і нашкодзіць... Басорка жыве недалёка




ад маляўнічай вёскі Старыя Мухаморы. Ідуць да яе мужчыны і жанчыны, маладыя і не вельмі, кожны са сваёй праблемай. І кожны такі зварот да вядзьмаркі — гэта асобная гісторыя, напісаная рознымі аўтарамі. У адных — старая, у іншых — маладая, яна мяняецца ў залежнасці ад абставін...

## Самыя прадаваныя аўтары ў ЗША

Амерыканская пісьменніца Сара Джанэт Маас, вядомая па серыялах «Двор з шыпоў і руж» і «Трон са шкла», стала самай прадаванай аўтаркай «BookTok» у ЗША. Як паведаміў forbes.com, пра гэта сведчаць звесткі маніторынгавай кампаніі «Circana BookScan». З пачатку года Маас прадала 4,83 мільёна асобнікаў сваіх 15 раманаў. Гэта на 1,69 мільёна больш, чым продажы 10 самых папулярных кніг для дарослых, выдадзеных у 2024 годзе.

Увогуле самай прадаванай стала кніга Крысцін Ханні «Жанчыны» — 829 115 друкаваных асобнікаў. Колін Гувер было прададзена 1,83 мільёна асобнікаў. На трэцім месцы Фрыда Макфадэн, якая ўжо прадала 1,61 мільёна асобнікаў сваёй кнігі «Настаўнік». Іншыя месцы ў рэйтынгу занялі: Ана Хуан (1 474 194 экз.); Рэбека Ярас (1 281 140 асобнікаў); Лора Ноўлін (824 700 асобнікаў); Эмілі Генры (788 388 асобнікаў); Анна Грэйс (576 113 экз.); Холі Джэксан (556 668 асобнікаў).

«Forbes» адзначае, што большасць гэтых кніг-бэстсэлераў ужо экранізаваныя або знаходзяцца ў стадыі экранізацыі.

## Трамп, суд і Пулітцэраўская прэмія

Экс-прэзідэнт ЗША і цяперашні кандыдат Дональд Трамп судзіцца з радай прысваення Пулітцэраўскай прэміі ў сувязі з прысуджэннем прэміі двум артыкулам, якія падкрэсліваюць сувязь Трампа ў выбарчай кампаніі 2016 года з расійскім умяшаннем у тыя выбары.

Абодва артыкулы былі апублікаваныя яшчэ ў 2017 годзе. Ужо пасля ўзнагароджання спецпракурор Роберт Мюлер, які расследуе меркаванае расійскае ўмяшанне ў выбары, заявіў, што не можа знайсці доказаў таго, што Трамп ці яго памочнікі каардынавалі свае дзеянні з расіянамі. Пасля гэтага Трамп і заклікаў раду Пулітцэраўскай прэміі адмяніць прысуджэнне. Тым не менш, у заяве 2022 года рада прэміі заявіла, што дзве незалежныя рэцэнзіі не знайшлі нічога, што дыскрэдытавала б узнагароджаныя артыкулы. У выніку аналізу рада прыйшла да высновы, што «ніводны ўрывак, загаловак або заява ні ў адным з артыкулаў не былі дыскрэдытаваныя фактамі, якія ўзніклі пасля прысуджэння прэміі».

Трамп падаў у суд, заявіўшы, што заява паклёпнічае на яго. Замест гэтага юрысты прэміі сцвярджалі, што заява камісіі з'яўляецца меркаваннем, а не канстатацыяй факту, і таму не можа быць паклёпам.

20 ліпеня старшы суддзя акруговага суда Фларыды адмовіўся адхіліць пазоў Трампа. Гэта азначае, што справа будзе працягнута, і адвакаты экс-прэзідэнта змогуць дапытаць лаўрэатаў Пулітцэраўскай прэміі. У сваёй пастанове суддзя спаслаўся на юрыдычны прэцэдэнт, паводле якога заява можа быць паклёпніцкай, калі дакладчык дае недарэчны фактычны кантэкст. Суддзя вырашыў, што заява рады прэміі на 2022 год змяшчае занадта мала інфармацыі, каб чытачы маглі ацаніць, ці сапраўды ўзнагароджаныя артыкулы заслугоўваюць узнагароды.

Трамп не падаў наўпрост у суд на «The Times» або «The Post» за апублікаваныя там артыкулы, якія былі адзначаныя Пулітцэраўскай прэміяй. Аднак раней яго штаб беспаспяхова звяртаўся да абодвух выданняў з-за апублікаваных у іх калонак на адну і тую ж тэму сувязяў выбарчай кампаніі Трампа з Расіяй. Нагадаем, у студзені суддзя Вярхоўнага суда Нью-Ёрка абавязаў былога прэзідэнта ЗША Дональда Трампа выплаціць «The New York Times» амаль 400 тысяч даляраў у якасці кампенсацыі выдаткаў пасля прайгранага пазову супраць выдання. Трамп падаў пазоў на 100 мільёнаў долараў супраць газеты і сваёй пляменніцы Мэры Трамп, абвінаваціўшы іх у «падступнай змове» з мэтай нібыта атрымання яго падатковай справаздачнасці. Аднак суддзя адхіліў пазоў, паколькі прэтэнзіі Трампа «не з'яўляюцца канстытуцыйнымі».

## ЗША і тры мільёны падручнікаў Украіны

ЗША вылучаць сродкі на друк больш за трох мільёнаў падручнікаў для ўкраінскіх школьнікаў. Пра гэта паведаміла прэс-служба Белага дома. У адміністрацыі адзначылі, што ў канцы траўня расіяне разграмілі друкарню ў Харкаве — адну з найбуйнейшых друкарняў у Еўропе. У Белым доме падкрэслілі, што Расія такім чынам атакуе ўкраінскую сістэму адукацыі, але Вашынгтон не дапусціць гэтага.

Падручнікі плануецца надрукаваць да пачатку новага навучальнага года. Іх развязуць у 12 тысяч украінскіх школ па ўсёй краіне.

## Новыя казкі... Братоў Грым

У Польшчы ў бібліятэцы Універсітэта імя Адама Міцкевіча ў Познані навукоўцы знайшлі 27 арыгінальных тамоў Братоў Грым з прыватнай калекцыі, якія раней лічыліся страчанымі. На кнігах ёсць рукапісныя адзнакі, якія сведчаць аб тым, як пісьменнікі выбіралі тэмы такіх казак, як «Гензэль і Грэтэль» і «Румпельштыльцхэн» (гісторыя пра злога гнома, які ўмее ствараць золата з саломы). Знойдзеныя тамы могуць зрабіць значны ўнёсак у развіццё сучасных даследаванняў творчасці братоў Грым і даюць надзею, што ў калекцыі ёсць і іншыя прадметы, якія лічыліся страчанымі з прыватнай бібліятэкі Якуба і Вільгельма.

Кнігі датуюцца 1700—1800 гадамі і ўтрымліваюць новыя казкі, якія яшчэ ніхто не чытаў, — напрыклад, казку пра доблеснага рыцара і прынцэсу Магелан. У зносках і паказальніках ёсць заўвагі, якія тлумачаць, чаму браты абралі пэўныя тэмы, крыніцы і іншыя анатацыі.

Браты Грым — адны з самых вядомых казачнікаў Еўропы. Большасць іх тэкстаў экранізавана.